

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 10 (645) 17 САКАВІКА 2004 г.

# Бывай, зіма!




МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ

**КАМУНАЛЬНАЕ УНІТАРНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА «МІНСКІ ГАРАДСКІ ЦЭНТР НЕРУХОМАСЦІ»**

ул. К. Маркса, 18
220050 г. Мінск
тэл. 227-05-62, 222-70-46

МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

**КОММУНАЛЬНОЕ УНИТАРНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ «МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ЦЕНТР НЕДВИЖИМОСТИ»**

ул. К. Маркса, 18
220050 г. Минск
тел. 227-05-62, 222-70-46

05.03.2004 № 259
на № 8 от 17.01.2004

**Общественное объединение "Товарищество белорусского языка имени Ф. Скорины"**

**О предоставлении помещения.**

Ваше письмо, адресованное Главе Администрации Президента Республики Беларусь Латыпову У. Р., по поручению руководства Мингорисполкома рассмотрено в Минском городском центре недвижимости.

Сообщаем, что 25.02.2004 г. комиссией администрации Партизанского района по упорядочению использования нежилых помещений принято решение о перезаключении договоров аренды с ОО "Товарищество белорусского языка имени Ф. Скорины" и Минской городской арганизации ОО "Товарищество белорусского языка имени Ф. Скорины" сроком до 4 февраля 2005 года. Для подготовки соответствующего решения горисполкома согласованные в установленном порядке заявления УП "ЖРЭО Партизанского района" на перезаключения договоров с названными арендаторами будут рассмотрены на Комиссии Мингорисполкома по упорядочению использования зданий, сооружений и нежилых помещений, находящихся в государственной собственности 09.03.2004 г.

**Директор С. С. Котиков.**

БЕЛАРУСКАЯ ЧЫГУНКА

вул. Леніна, 17, 220030, г. Мінск
тэл 225-48-60, факс (017) 227-56-48
адрас электроннай пошты: *ns@belrw.com*

БЕЛОРУССКАЯ ЖЕЛЕЗНАЯ ДОРОГА

ул. Ленина 17, 220030, г. Минск
тел. 225-48-60, факс (017) 227-56-48
адрес электронной почты: *ns@belrw.com*

25.02.2004 № 17-04-3/708
На № 34 ад 30.01.2004

**Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А. А.**

**Аб выкарыстанні дзяржаўных моў на Беларускай чыгунцы.**

**Паважаны спадар Трусаў!**

Дзейнасць Беларускай чыгункі напраўлена, перш за ўсе, на своечасовае і якаснае забеспячэнне патрэбнасці народнай гаспадаркі і насельніцтва рэспублікі ў перавозках, адначасова з забеспячэннем бяспечнага руху цягнікоў. Разам з гэтым Беларуская чыгунка планамерна імкнецца да павышэння якасці і культуры абслугоўвання пасажыраў.

Ваш чарговы зварот аб роўным выкарыстанні беларускай і рускай моў разгледжаны ў чарговы раз. Лічым, што становішча з іх выкарыстаннем на Беларускай чыгунцы адпавядае прыцыпу іх роўнасці.

Бланкі дакументаў усіх арганізацый Беларускай чыгункі у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28.06.2000 № 357 і пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31.07.2000 № 1172, аформлены на беларускай і рускай мовах. Афіцыяльныя канверты Беларускай чыгункі таксама заказаны на беларускай і рускай мовах.

Справаводства на Беларускай чыгунцы, узаемаадносіны з рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, іншымі дзяржаўнымі, недзяржаўнымі і грамадскімі аб'яднаннямі, ажыццяўляюцца, як на беларускай, так і на рускай мовах.

На чыгуначных вакзалах рэспублікі аб'явы для пасажыраў робяцца дыктарамі, як на беларускай, так і на рускай мовах. Дыктары маюць неабходную адукацыю. Граматна размаўляюць на беларускай мове і маюць неабходныя навыкі, што забяспечвае высокі ўзровень абслугоўвання пасажыраў.

На чыгуначных станцыях аб'явы робяцца дзяжурнымі па станцыі альбо касірамі. Адукацыя і характар працы апошніх, неабходнасць, у першаю чаргу, забеспячэння бяспечнага руху цягнікоў, якаснага і аператыўнага абслугоўвання пасажыраў, не дазваляе якасна рабіць аб'явы на дзвюх мовах.

**Абвесткі ў электрацягніках, пасля перапраграмавання сістэмы УСАВПЭ, будуць таксама рабіцца на беларускай і рускай мовах.**

Выказваем Вам, спадар Трусаў, шчырую падзяку за прапанову аб аказанні фінансавай дапамогі. Аднак спадзяемся, што самі паступова вырашым нашы праблемы.

Беларуская чыгунка кіруецца ў сваёй працы палажэннямі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з даручэннем Прэзідэнта і Ўрада Рэспублікі Беларусь аб скарачэнні дакументаабароту, **звяртаемся да Вас, паважаны спадар Трусаў, з прапановай спыніць звароты на Беларускую чыгунку па гэтай тэме.**

**Намеснік кіраўніка Беларускай чыгункі У. В. Балахонаў.**

# 22 сакавіка 140 гадоў з дня пакарання смерцю нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага



Паўстанне 1863-64 гг. у Беларусі і Літве было задушана расійскімі войскамі колькасцю каля 90 тысяч чалавек. За свабоду і незалежнасць аддалі свае жыцці і волю тысячы лепшых сыноў і дачок Беларусі. 22 сакавіка 1864 года ў Вільні быў павешаны Кастусь Каліноўскі, кіраўнік паўстання ў самыя цяжкія для яго часы.

Хоць паўстанне 1863-1864 гг. пацярпела паражэнне, але яно паспрыяла таму, што ў заходніх губернях быў скасаваны стан часоваабавязаных сялян, і тут больш паслядоўна праводзілася зямельная рэформа. Нацыянальна-рэвалюцыйны ўздым 1863-64 гг. у Беларусі прывёў да пашырэння нацыянальнай свядомасці беларусаў, да пачатку працэсаў па фармаванні беларускай нацыі, якая, як не раз паказвала гісторыя, не можа сфармавацца без вялікай ахвярнасці лепшых сыноў гэтай нацыі.

Магіла Кастуся Каліноўскага была затаптана, каб знішчыць саму памяць пра яго. На годнае месца ў нашай гісторыі вярнулі імя К. Каліноўскага беларускія адраджэнцы 1920-х гадоў. З лёгкай рукі Усевалада Ігнатоўскага і Вацлава Ластоўскага за героем замацавалася беларускае імя Кастусь. Аднак да гэтага часу няма ў сталіцы незалежнай Беларусі, помніка Кастусю Каліноўскаму, як няма помніка і паўстанцам навогул. Ды ўсяму свой час. Кроў герояў не вадзіца. Яна прарасла людскою памяццю, прарасце і помнікамі.

*(Пра Кастуся Каліноўскага і паўстанне 1863-64 гг чытайце на ст. 2 і 8.)*

# Кастусь Каліноўскі і яго справа

Погляды К. Каліноўскага і яго брата Віктара склаліся пад уплывам рускай прагрэсіўнай літаратуры, палымянага слова Я. Дамброўскага і разважанняў З. Серакоўскага. Ім, удзельнікам тайнай рэвалюцыйнай арганізацыі, было на каго раўняцца. Яны бралі прыклад змагароў: земляка Т. Касцюшкі, дзекабрыстаў, рэвалюцыянераў-дэмакратаў А. Герцана М. Агарова і М. Бакуніна.

Польскі рэвалюцыянер Я. Дамброўскі, з якім меў сяброўскія адносіны К. Каліноўскі наладзіў сувязь з кіраўнікамі тайнай рэвалюцыйнай арганізацыі разначынцаў "Зямля і воля" (1861-64 гг.). Яна склалася пад ідэйным уплывам А. Герцана, М. Агарова і М. Чарнышэўскага, а арганізавалі яе і былі кіраўнікамі М. і А. Серна-Салаўевічы, А. Сляпцоў і інш. у Пецярбургу знаходзіўся цэнтральны рускі народны камітэт "Зямлі і волі", які скарочана называлі ЦК "Зямлі і волі". Мясцовыя арганізацыі гэтага камітэту разначынцаў дзейнічалі ў многіх еўрапейскіх гарадах Расіі (Маскве, Казані, Саратаве, Тамбове і інш.). Арганізацыя падтрымлівала патаемныя сувязі з рускім рэвалюцыйным цэнтрам у Лондане, стараннямі якога выдавалася газета "Колокол". Важнае значэнне мела далучэнне ў канцы 1862 г. да "Зямлі і волі" на правах аўтаноміі ваенна-рэвалцыйнай арганізацыі "Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы", якую стварылі Я. Дамброўскі і А. Патабня. У апошнюю ўваходзілі не толькі рускія афіцэры, але і выходцы з Польшчы, Беларусі, Украіны і Літвы.

З удзелам Я. Дамброўскага ўлетку 1862 г. у Варшаве быў створаны цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК). У той жа час у Вільні на аснове камітэта руху ўтварыўся Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК). Камітэт руху ўзнік яшчэ ў восень 1861 г. У яго ўвайшлі Л. Звяждоўскі, К. Каліноўскі, Э. Вярыга і інш. Старшынём яго абралі капітана Л. Звяждоўскага, ад'ютанта віленскага генерал-губернатара У. Назімава. Усе названыя арганізацыі вялі падрыхтоўку да паўстання, якое магло ахапіць расійскія, беларускія, польскія і літоўскія губерні. Канспіратыўныя сувязі паміж рознымі рэвалюцыйна-дэмакратычнымі арганізацыямі падтрымліваліся праз Я. Дамброўскага, А. Патабню, Ф. Зянковіча, К. Каліноўскага, У. Малахоўскага і інш. У. Малахоўскі па даручэнні К. Каліноўскага ў 1863 г. наладзіў сувязі з арганізацыяй "Земля і воля".

Ажыццяўлялася патаемная сувязь і праз іншых нашых землякоў. Ясафат Пятровіч Агрызка (1826, Лепельскі пав. – 1890 выконваў абавязкі прадстаўніка Цэнтральнага нацыянальнага камітэта, затым Польскага нацыянальнага ўрада ў Пецярбургу ў 1862-64 гг. Антон Данілавіч Трусаў (1833, Барысаў – пасля 1866), знаходзячыся ў Маскве, трымаў сувязь з рэвалюцыянерамі Варшавы і Менска. Памешчыкі браты Лявон і Варцам Зянкевічы жылі ў Лондане і дапамагалі Герцану і Агарову ў выданні газеты "Колокол".

Меў сваіх прадстаўнікоў за межамі Расійскай імперыі Літоўскі правінцыяльны камітэт ператвораны ў 1863 г. у Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі. Так рэвалюцыйныя дзеячы нашай краіны Ф. Зянковіч, Дж. Банольдзі, Б. Длускі, якія апынуліся за мяжой, куплялі зброю і перапраўлялі яе паўстанцам у Літву і Беларусь.

Гэтыя патаемныя сувязі якія наладзіліся паміж рэвалюцыйна-дэмакратычнымі арганізацыямі Расіі, Польшчы, Беларусі і Літвы напярэдадні паўстання, дзеля нагляднасці паказаны на схеме.

Падрыхтоўка да паўстання ў Беларусі і Літве вялася ў 1862 г. Тады былі створаны падпольныя рэвалюцыйна-дэмакратычныя арганізацыі або гурткі ва ўсіх губернскіх гарадах Беларусі і Літвы. Найбольш актыўна дзейнічала ў 1861 – 64 гг. Гарадзенская арганізацыя, якая была створана юрыстам К. Каліноўскім і загадчыкам лясной школы В. Урублеўскім.

Спачатку ў яе склад ўвайшлі афіцэр Ян Ваньковіч, інжынер-будаўнік Эразм Заблоцкі і яго брат урач Баляслаў Заблоцкі, каморнікі Фелікс Ражанскі і Ільдафонс Мілевіч, акцызны чыноўнік Станіслаў Сангін, ксяндзы Ян Зарыжскі, Ігнат Казлоўскі і інш. У перыяд падрыхтоўкі да паўстання намаганні кіраўнікоў Гарадзенскай арганізацыі былі накіраваны на стварэнне дзеяздольных органаў кіравання паўстаннем ад цэнтра да павета, ад павета да вёскі. Гэта структура была пашырана і на іншыя ваяводствы (губерні). І калі быў атрыманы ліпеньскі статут 1862 г. так званы "Статут Гілера", распрацаваны Цэнтральным нацыянальным камітэдтам у Варшаве, дык аказалася, што распрацоўшчыкі структуры органаў кіравання паўстаннем у Варшаве і Горадні мелі на гэты конт папярэднюю дамову. Аб гэтым маглі раней дамовіцца Я. Дамброўскі і К. Каліноўскі. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная структура кіравання будавалася на набытым досведзе дзяржаўнага кіравання ў Вялікім Княстве Літоўскім, паўстання 1794 г. і на аснове новых дэмакратычных форм арганізацыі. Будучымі ўдзельнікамі паўстання быў адкінуты расійскі падзел краіны на губерні. Губерні сталі называць ваяводствамі, як некалі было ў ВКЛ. Вышэйшым органам кіравання падрыхтоўкай да паўстання ў Літве і Беларусі быў Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК).

ЛПК стварыў рэвалюцыйныя арганізацыі: Гарадзенскую (К. Каліноўскі) Менскую (А. Трусаў), Наваградскую (У. Борзабагаты), Беластоцкую (Б. Шварцэ) і інш. Яму падпарадкоўваліся ваяводскія рэвалюцыйна-дэмакратычныя арганізацыі, кіраўнічым органам якіх з'яўляўся ваяводскі (губернскі) камітэт на чале з рэвалюцыйным ваяводскім камісарам. У склад камітэту ўваходзілі вайсковы начальнік (камандуючы паўстанцкімі сіламі) ваяводства, начальнік штаба, намеснік рэвалюцыйнага камісара, цывільны ваявода, начальнік горада, рэферэнты па фінансавых, зямельных, вайсковых, транспартных і іншых справах. Ваяводскаму камітэту падпарадкоўваліся павятовыя камітэты, якія мелі аналагічную структуру. Паветы дзяліліся на акругі, акругі – на парафіі. Парафіі – на сотні, сотні – на дзесяткі. На чале кожнага падраздзялення стаяў адпаведны начальнік, які меў памочніка на выпадак свайго правалу.

Найбольш развітую структуру кіравання мела Гарадзенская рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя

Структуру кіравання паўстаннем паказана на схеме.

**Структура кіравання паўстаннем ў Літве і Беларусі (1862 г)**




Гэтая структура кіравання мала змянілася пасля пачатку паўстання. Дзеля знаёмства народа з рэвалюцыйнай праграмай, ЛПК наладзіў выданне дзвюх газет "Charogiew swobody" ("Сцяг свабоды") і "Мужыцкая праўда". Адна была разлічана на шляхту і інтэлігенцыю, а другая – на сялян. "Мужыцкая праўда" з'явілася першай газетай, надрукаванай на беларускай мове лацінкай. Яна была падрыхтавана і выдадзена патаемна клопатамі К. Каліноўскага, Ф. Ражанскага і С. Сангіна. У свет выйшла сем яе нумароў.

Яе выхад да чытачоў афіцыйна быў запісаны 10 ліпеня 1862 г., калі на полі каля Бярозаўкі, што на Камянеччыне, яе падабраў тутэйшы жыхар Місей Геліч. Аб тым, што ідзе падрыхтоўка да паўстання, у нейкай ступені стала вядома царскаму ўраду. Каб папярэдзіць паўстанне, ў Пецярбургу быў заснаваны Заходні камітэт – спецыяльная ўстанова для барацьбы з вызваленчым рухам у Беларусі, Літве і на Украіне.

ЦНК меў абмежаваную праграму. Яна была складзена ў інтарэсах польскай шляхты, а не сялян. На яе недахопы польскім рэвалюцыянерам-дэмакратам указвалі А. Герцан, М. Бакунін і М. Агароў. Яны прапаноўвалі ўключыць у яе патрабаванне "Зямля – сялянам, воля – правінцыям". Аднак гэтага зроблена не было, што стала адной з прычын, якая адштурхнула ад паўстання сялян Беларусі, Літвы, Украіны. Не апраўдаў сябе заклік "За нашу і вашу свабоду". Паўстанне не падтрымалі сяляне ўсходніх паветаў Беларусі і сяляне Расіі. Калі б паўсталі сяляне Расіі яго поспех у Літве і Беларусі ўзрос ў некалькі разоў. Магчыма адбыўся б развал Расійскай імперыі.

Паўстанне ў Варшаве пачалося 10 (22) студзеня 1863 г. і было выклікана наборам у рэкруты і на вайсковую службу, што пазбаўляла ЦНК значных рэзерваў. Пра неабходнасць пачатку паўстання ЦНК нават не паведаміў у ЛПК, а таму ў Вільні 10 дзён вагаліся: не маглі вырашыць якое прыняць рашэнне. Яно было прынята толькі 20 студзеня (1 лютага) 1863 г. У гэты дзень з'явіўся Маніфест Часовага ўраду Літвы і Беларусі. Урад узначаліў К. Каліноўскі. У Маніфесце ўрад на чале з Каліноўсскім названы правінцыяльным і аб'ява аб прынятым рашэнні робіцца ад імя Польскага нацыянальнага ўраду (так пачаў называцца ЦНК з дня паўстання ў Варшаве). Фактычна Каліноўскі вымушаны быў падпарадкоўваца Польскаму нацыянальнаму ўраду, хоць ён як прыхільнік плыні "чырвоных", якія сталі за радыкальнае рашэнне сялянскага і нацыянальнага пытанняў, шмат у чым не быў згодзен з варшаўскай праграмай, асабліва з дзеяннямі "белых", якія больш спадзяваліся на рэформы, чым на сялянскі бунт.

"Белыя" захапілі ўладу па кіраванні паўстаннем ў Варшаве, а затым па настаянні Н. Дзюлёрна (камісар Польскага нацыянальнага ўраду ў Літве) 27 лютага (11 сакавіка) 1863 г. Каліноўскага адхілілі ад кіравання паўстаннем, а старшынём Часовага ўраду Літвы і Беларусі стаў ковенскі памешчык Якуб Гейштар, прыхільнік "белых". Улада ў Вільні перайшла да партыі "белых"

Кіраўнічы орган па падрыхтоўцы да паўстання ў Літве і Беларусі і падчас яго меў розныя назвы. Фактычна яны выражалі існаваўшыя адносіны да кіраўніцтва паўстаннем у Варшаве.

Некаторыя даследчыкі хочуць паказаць паўстанне ў Літве і Беларусі як польскае паўстанне, чым уводзяць сучясных людзей у зман, як некалі гэта рабіў віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў. Паўстанне ў Польшчы было польскім, а ў Літве і Беларусі, асабліва калі яго ўзначальваў К. Каліноўскі, яно было беларуска-літоўскім, бо вялося на іншай тэрыторыі і мела нацыянальна-вызвольны характар. Удзельнікі яго – тутэйшыя жыхары.

У паўстанні ў Беларусі ўдзельнічалі сяляне, рамеснікі, студэнты, шляхта, афіцэры і былыя вайскоўцы, настаўнікі і гімназісты, інжыреры і чыноўнікі. Некаторыя паўстанцы стваралі баявыя і рэвалюцыйныя песні, пісалі вершы і пракламацыі. Праславіўся сваімі песнямі паэт Фелікс Ражанскі, а вершамі Фелікс Тапчэўскі (1838-1892) і Францішак Багушэвіч (быў у аддзеле Парадоўскага). Падтымліваў сувязі з паўстанцамі пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Адсутнасць агульнага плана паўстання, скаардынаваных дзеянняў, палітыка "белых", адсутнасць добрай зброі, паслабленні царскіх улад на карысць сялян пры правядзенні зямельнай рэформы прывялі да паражэння паўстання. Вялікую шкоду нанёс паўстанцам загад М. Мураўёва, абнародаваны 26 жніўня 1863 г. Паводле яго, захопленыя са зброяй паўстанцы падлягалі прысуду на смерць на працягу 24 гадзін. А тым, хто з'явіцца сам і пакаецца, даравалі. У многіх вёсках па загаду генерал-губернатара была створана сельская варта, каб ахоўваць вяскоўцаў ад паўстанцаў і вылоўліваць іх. Некаторыя сяляне верылі хлусні, што гэта бунт польскіх паноў супраць зямельнай рэформы. Вёскі, якія падтрымлівалі паўстанцаў, спальваліся.

У жніўні 1963 г. усё кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі зноў перайшло да К. Каліноўскага, прыхільніка радыкальнай праграмы і крутых мер. Аднак час быў упушчаны. Нават створаная рэвалюцыйная конная жандармерыя для расправы са здраднікамі і для знішчэння застаў і вартаў царскіх войск не магла выратаваць становішча. 28 жніўня 1863 г. польскі нацыянальны камітэт аддаў загад спыніць баявыя дзеянні, але Каліноўскі прадаўжаў змагацца. Ён жыў у Вільні на канспіратыўнай кватэры насупраць генерал-губернатарскага палаца, меў на руках пашпарт на імя Ігнацыя Вітажэнца і каардынаваў дзеянні паўстанцаў. Ён накіраваў Вітольда Парафіяновіча ваяводскім камісарам у Магілёўскую губерню. У Бабруйску Парафіяновіча затрымалі і прывезлі ў Менск, дзе следчы жандармскі палкоўнік А. М. Лосеў схіліў яго да здрады, абяцаючы захаваць яму жыццё. Той выдаў следчаму месцазнаходжанне, імя і прозвішча, пад якім хаваўся К. Каліноўскі.

Пасля арышту К. Каліноўскага вызвольная барацьба пайшла на спад. У 237 баях загінулі 5934 паўстанцы, 1361 трапіў у палон. Многія кіраўнікі паўстання былі публічна павешаны або расстраляны. У Беларусі і Літве пакаралі смерцю 128 паўстанцаў, на катаргу і пасяленне ў Сібір выслалі 12483 чалавекі. Некаторым удалося ўцячы за мяжу. І там яны прадаўжалі змагацца. Гэта Я. Дамброўскі, В. Урублеўскі, А. Трусаў, У. Борзабагаты і інш.

**Міжнародныя канспіратыўныя сувязі Літоўскага правінцыяльнага камітэту (ЛПК) 1862 г.**



# Аб барацьбе супраць фальсіфікацыі гісторыі

*(Выпраўленне недакладнасці)*

У № 8 "Наша слова" за 25 лютага 2004 г. змешчана рэпліка паважанага Ніла Сымонавіча Гілевіча ў сувязі з прыкрай для мяне памылкай у артыкуле (у "Нашым слове" за 21 студзеня г.г.) пра артыкул В. Мялешкі і З. Капыскага "Фактам вопреки" ("Советская Белоруссия" за 28.7.1987 г.), у якім быў змешчаны афіцыйны і рэзка крытычны адказ першаму сакратару праўлення СП БССР Нілу Гілевічу, зразумела, з санкцыі ЦК КПБ. Сапраўды, крытыка "трох нацыяналістаў" А. Мальдзіса, В. Грыцкевіча і А. Грыцкевіча гучала пазней. Не маглі прадстаўнікі афіцыйнай савецкай гістарычнай навукі з інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР даць адпор "тром гэтым нацыяналістам", бо іх артыкул з'явіўся пазней, у сакавіку 1988 г., а быў дадзены адпор "аднаму нацыяналісту" – Нілу Гілевічу "

Таму прашу прабачэння ў вельмі мною паважанага Ніла Сымонавіча Гілевіча і чытачоў газеты за маю памылку.

Каб сучасны чытач мог уявіць сабе тагачасную атмасферу ідэйнага супрацьстаяння і барацьбы прашу рэдакцыю "Нашага слова" надрукаваць верш Ніла Гілевіча "Именем навукі", які я прыкладаю да гэтага ліста.

Пра напал тагачасных дыскусій сведчаць і артыкулы, якія з'явіліся ў прэсе тых гадоў. На пленуме Саюза пісьменнікаў БССР з глыбокім аналізам і справядлівай крытыкай гістарычнай навукі ў БССР выступіў Ніл Сымонавіч Гілевіч. Тэкст даклада быў змешчаны ў газеце "Літаратура і мастацтва" за 12.6.1987 г. У тым жа тыднёвіку "ЛіМ" 14 жніўня 1987 г. выступіў гісторык з Ленінграда Валянцін Грыцкевіч з артыкулам "Каб ведалі факты.." (Заўвагі на палях аднаго падручніка.) Яшчэ раней (1982 г.) ён напісаў артыкул "Пад знакам дня ўчарашняга". Некалькі палемічных артыкулаў надрукаваў Адам Мальдзіс. Вёў барацьбу з кіраўніцтвам інстытута гісторыі (і сваімі сааўтарамі па напісанні кнігі "Беларусь у складзе Вялікага Княства Літоўскага") і аўтар гэтых радкоў.

За гэта ўрэшце мае раздзелы па палітычнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, ужо падрыхтаваныя да выдання, было вырашана даручыць напісаць нанава іншым аўтарам. Адстойваў з рашучасцю свае пазіцыі Мікола Ермаловіч, урэшце і з'явіўся артыкул А. І. Мальдзіса, В.П. Грыцкевіча і А. П. Грыцкевіча "Няўжо "забароненая зона"?" у часопісе "Советское славяноведение" ў 1988 г. У пачатку 90-х гадоў пачалі выдавацца кнігі Міколы Ермаловіча, першая – "Па слядах аднаго міфа" – нават у 1989 г. Пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь значная група беларускіх гісторыкаў далучылася да тых першых, хто пачаў ствараць нацыянальную канцэпцыю ў гістарычнай навуцы.

Аднак гэтая барацьба не абыходзілася без страт. А. Грыцкевіч вымушаны быў змяніць месца прац. Мае погляды не ўпісваліся ў тагачасную афіцыйную навуковую канцэпцыю гісторыі. Яшчэ больш пацярпеў Адам Мальдзіс. Вучоны з сусветным імем не быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі. Вядома, што абранне ў члены-карэспандэнты і акадэмікі ўзгаднялася спачатку з ЦК КПБ, потым ужо з адміністрацыяй кіраўніка дзяржавы. Рэпрэсіі не кранулі В.П. Грыцкевіча, грамадзяніна Расіі. Аднак і яго кнігі ў Беларусі (не ўсе) выходзілі з вялікім спазненнем.

Пaступова ў першай палове 90-х гадоў нацыянальная тэндэнцыя гістарычнай навукі ў Беларусі набірала сілы. Выходзілі ўсё новыя і новыя кнігі па гісторыі Беларусі, "Забароненая зона" ліквідавалася.

Былі вернуты з нябыту імёны рэпрэсаваных гісторыкаў – Выйшлі кнігі В. Ластоўскага, Ус. Ігнатоўскага, М. Доўнар-Запольскага і інш. З вялікімі цяжкасцямі выйшла кніга Я. Найдзюка і І. Касяка "Беларусь учора і сяньня" (1993 г.). У апошні момант яе друкаванне затрымалі, каб у апошняй даце "Храналагічнай табліцы" зняць радок. Засталося: "1941 – Пачатак нямецка-савецкай вайны і нямецкай акупацыі Беларусі" А былі выкінуты словы пра вызваленне Беларусі "ад бальшавіцкага панавання" (у першай серыі выдадзенай кнігі яны захаваліся).

У 1-м (1993) і 2-м (1993) тамах "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" ў складзе рэдакцыйнай калегіі былі і тыя гісторыкі, якія пачыналі змаганне за ўзнаўленне нацыянальнай канцэпцыі гісторыі, у тым ліку М. Ермаловіч, А. Мальдзіс і А. Грыцкевіч, а навуковым кансультантам быў В. Грыцкевіч. інстытут гісторыі НАН выдаў два тамы "Нарысаў гісторыі Беларусі" (1994,1995), у якім выразна праяўляўся новы падыход да разгляду гісторыі Беларусі.

Аднак з прыходам да кіраўніцтва дзяржавай А. Лукашэнкі сітуацыя змянілася. Вясной 1996 г. цэлая група кансерватыўных гісторыкаў напісала ліст у прэзідэнцкую адміністрацыю са скаргай на гісторыкаў-"нацыяналістаў", патрабуючы змяніць склад рэдакцыі "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". 17 красавіка 1996 г. адбылося паседжанне рэдкалегіі, на якое не былі запрошаны многія яе сябры.

У выніку было прынята рашэнне цалкам змяніць склад рэдкалегіі, пакінуўшы з 13 яе сяброў толькі чатырох. З рэдкалегіі былі выведзены М. Біч, А. Грыцкевіч, М. Ермаловіч. У. Конан, А. Мальдзіс, В. Скалабан, Г. Штыхаў. Іх замянілі больш надзейнымі для ўлады людзьмі. Вал. Грыцкевіч быў выведзены са складу навуковых кансультантаў. Герб "Пагоня" на вокладцы быў заменены пустым месцам. Потым пачалася і "парафрака" артыкулаў, каб яны адпавядалі патрабаванням улады.

Гэта ўсё толькі невялікая частка эпізодаў у барацьбе за гістарычную навуку, за яе чысціню і пазбаўленне ад міфаў савецкага і постсавецкага перыядаў, а таксама, з другога боку, барацьба за вяртанне навукі пад шчыльны дзяржаўны кантроль.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Ніл Гілевіч**

**Именем навукі**

"Што ты пішаш, баламутнік,
аб гісторыі далёкай! --
закрычаў у злосці лютай
пані Догмы верны лёкай. --

Што ты ўзносіш? Што ты хваліш?
І куды ты цэліш – хіліш?
Хочаш даўні хлам і залеж
Прыцягнуць на слаўны фініш?

Пра які ты трубіш Статут?
Пра якіх князёў у Крэве?
Пяць вякоў назад хвасталы
Продак твой сядзеў на дрэве!

А Гусоўскі ды Скарына,
Будны, Цяпінскі, Зізаній –
Гэта міф, які стварыла
Хэўра "контры" па ўказанні!"
1987 г.

# Вечарына ў гонар пераможцаў алімпіяд у Горадні

Перш чым распавесці пра ўрачыстасць — крыху перадгісторыі, у якой, як у люстэрку, адбіваецца нашая рэчаіснасць.

Ідэя Вольгі Ахрук зладзіць вечарыну ўшанавання пераможцаў школьных алімпіяд па беларускай мове абмяркоўвалася на паседжанні Гарадзенскай абласной рады ТБМ. Вырашалі ўсё зрабіць сваімі сіламі, сіламі сяброў Таварыства, размеркаваўшы сваю працу па раёнах горада. Аднак, параіўшыся з дасведчанымі людзьмі, зразумелі, што не ўсе кіраўнікі школ без ведама загадчыкаў РАНА пойдуць нам насустрач і дазволяць запрасіць на вечарыну пераможцаў алімпіяд па беларускай мове. Мы звярнуліся ў аддзел адукацыі Ленінскага раёна, дзе нам сказалі, што справа, якую мы задумалі, добрая, але без "куратара" вырашыць яе не могуць.

Каб атрымаць дазвол на правядзене нашага мерапрыемства, трэба было звярнуцца ў гарвыканкам. Напісалі заяўку на імя старшыні сп. В. М. Лявонава, фізіка па адукацыі, і ў хуткім часе атрымалі адмоўны адказ з прычыны таго, што заяўка нашая была пададзена менш чым за 15 дзён да вечарыны, і мы не мелі пісьмовага дазволу ўладальніка памяшкання, дзе планавалася яе правесці. Мы хуценька дапрацавалі сваю заяўку і 18 снежня падалі яе зноў. У дадатку надрукавалі план вечарыны з паназнакай прозвішчаў удзельнікаў. Далей нашыя паперы пайшлі ў "общий отдел" і аддзел адукацыі. Галоўны спецыяліст адукацыі гарвыканкама М. Ф. Жагала паабяцаў падрыхтаваць адказ адразу пасля свята Нараджэння Хрыстова 26 снежня. Аднак у гэты дзень не было спецыяліста па беларускай мове. Дамовіліся на 29 снежня. А калі прыйшлі, нам сказалі, быццам адказ на нашу заяўку падрыхтаваны, але без подпісу Лявонава, які іх аддасць у "общий отдел", ён не сапраўдны. З "общего отдела" адказ павінны былі поштай даслаць нам у ТБМ. Каб не губляць час, мы дамовіліся, што забяром тую паперу самі 30 снежня. Але ў прызначаны дзень галоўны спецыяліст па адукацыі М. Ф. Жагала пажаліўся нам, як цяжка злавіць В. М. Лявонава, каб падпісаць ліст. На наступны дзень, 31 снежня, недзе затрымаўся сам М. Ф. Жагала. Ведаючы, што з 1 па 7 студзеня будуць выхадныя дні, кіруемся да старшыні гарвыканкаму В. М. Лявонава. Там даведваемся, што нам не далі дазвол на правядзенне вечарыны, патлумачыўшы, што падобнае мерапрыемства ў гонар пераможцаў алімпіяд па беларускай і рускай мовах пачаў рыхтаваць аддзел адукацыі гарвыканкама сумесна з навукова-адукацыйным цэнтрам "Словесник" ВМК пры гарУА і Гарадзенскім аддзяленнем аб'яднання "Русское общество". Нам прапанавалі прыняць удзел у гэтым урачыстым узнагароджванні пераможцаў філалагічных алімпіяд, якое планавалася на 15 студзеня. Пасля выхадных дзён, 8 студзеня нарэшце быў атрыманы пісьмовы адказ на нашу заяву, падпісаны яшчэ 31 снежня. Азнаёміўшыся з яго зместам, хтосьці з сяброў прапанаваў бразнуць дзвярыма і адмовіцца ад удзелу. Іншыя казалі, што гэтага толькі і чакаюць афіцыйныя структуры. Перамагла думка, рыхтаваць мерапрыемства разам з аддзелам адукацыі гарвыканкаму. Пазней пераканаліся ў абсалютнай правільнасці нашага рашэння.

Ад аддзела адукацыі ўрачыстасць рыхтавала спадарыня В.М.Зуева. Па нашай прапанове ў сумесны сцэнар былі ўключаны паэты і беларускія барды, а таксама тыя, хто будзе віншаваць пераможцаў ад імя ТБМ. Мы прапанавалі, каб вядоўцы карысталіся нароўні, як рускай, так і беларускай мовамі, каб беларускамоўныя ўдзельнікі, асабліва дзеці, не адчувалі дыскамфорту.

15 студзеня, а 16.00 гадзіне, у актавай зале СШ 25 пачалася вечарына. З віншавальным словам перад прысутнымі выступіла В.А. Родзіна. Усе пераможцы алімпіяд і іхнія настаўнікі атрымалі ад аддзела адукацыі гарвыканкаму розныя кнігі. У сваю чаргу ТБМ уручыла пераможцам у алімпіядзе па беларускай мове беларускія кнігі і спеўнікі. (Грамадскае аб'яднанне "Русское общество" чамусьці на вечарыне не прысутнічала). Выступілі выкладчыкі універсітэта і работнікі Дома настаўніка, якія павіншавалі пераможцаў і праспявалі песні. Школа №25 падрыхтавала танцавальную праграму, у якой удзельнічалі дзеці ад самых маленькіх — да старшакласнікаў. На жаль, вядоўцы вечарыны амаль не карысталіся беларускай мовай. Праўда гэты недахоп у пэўнай ступені быў кампенсаваны маладым выкладчыкам гарадзенскага універсітэта, былым вучнем В.А. Родзінай паэтам Анатолем Брусевічам, які прачытаў два сваіх вершы і павіншаваў пераможцаў; а таксама настаўнікам гісторыі, выдатным выканаўцам беларускіх песняў Вячаславам Жукавым і маладым выканаўцам і стваральнікам беларускага рок-гурта, вучнем гімназіі Канстанцінам Пажарыцкім.

Затаіўшы дыханне слухала зала выкананне Жукавым першай песні. А калі Вячаслаў заспяваў другую, якую раней давялося чуць у выкананні А. Мельнікава, — уся зала падпявала. Косця Пажарыцкі прыйшоў з сябрамі, якія актыўна падтрымлівалі яго пад час выступу. Першая песня, якую ён выканаў, — "Простыя словы" гурта NRM. Косця спрактыкавана папрасіў падтрымку залы, і шмат хто з яго сяброў разам заспявалі гэтую песню. Другая песня была невядомая слухачам, словы і музыку напісаў сам Косця і выканаў пад гітару. Прыемна было слухаць вершы і музыку самых удзельнікаў алімпіяд па беларускай і рускай мовах. Выдатна выступілі і настаўнікі. У канцы вечарыны слова ўзяў В.М. Лявонаў. Ён гаварыў пра шматгранасць таленту дзяцей, якія здольныя не толькі выдатна вучыцца, але і спяваць, іграць на музычных інструментах, чытаць вершы. Сам таксама прачытаў пару вершаў на рускай мове і пажадаў пераможцам алімпіяд далейшых поспехаў. Падумалася, калі б кожны з прамоўцаў валодаў дзвюма дзяржаўнымі мовамі, то ў беларускім грамадстве было б менш непаразуменняў, як гэта даказала моладзь, якая з павагай ставіцца да тых, хто любіць беларускае слова і шануе яго. Дарэчы, пасля вечарыны В.М. Лявонаў паабяцаў зрабіць у Горадні беларускамоўныя месячнія і дэкадныя праязныя білеты.

Спіс пераможцаў алімпіяды па беларускай мове.

**11 клас.**

**Эйсмант Анастасія**, вучаніца гімназіі №1, **Мазурчык Галіна Казіміраўна**, настаўніца;

**Запольская Таццяна**, вучаніца СШ № 32, **Бушэйка Зоя Аляксандраўна**, настаўніца;

**Барысевіч Марыя**, вучаніца гімназіі №1, **Мазурчык Галіна Казіміраўна**, настаўніца;

**Вінаград Таццяна**, вучаніца СШЛ №1, **Русалоўская Аксана Анатолеўна**, настаўніца;

**Баярчук Алена**, вучаніца СШ № 32, **Бушэйка Зоя Аляксандраўна**, настаўніца.

**10 клас.**

**Астрашэўскі Сяргей**, вучаніца СШ № 9, **Таракара Раіса Іванаўна**, настаўніца;

**Барысевіч Веранікa**, вучань гімназіі № 2, **Міхно Ніна Фёдараўна**, настаўніца;

**Волкава Вікторыя**, вучаніца СШ № 26, **Коўшык Ірына Іосіфаўна,** лаўрэат конкурса "Учитель словесности — Гродно-2003" сярод настаўнікаў беларускай мовы

**9 клас.**

**Дымчына Вікторыя**, вучаніца СШ № 10, **Зяньковa Алена Тадэвушаўна**, настаўніца;

**Смольская Таццяна**, вучаніца гімназіі № 1, **Даўлют Ірміна Мар'янаўна**, настаўніца;

**Хомбак Аляксандр**, вучань СШ № 13, **Малышка Алена Анатолеўна**, настаўніца.

*Алесь Крой, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ.*

# Магдэбургскае права і геральдыка на канвертах



Нядаўна беларуская пошта выпусціла некалькі новых марак і канвертаў з рознымі геральдычнымі выявамі. У серыі "Гербы беларускіх гарадоў" з'явіліся дзве маркі з выявамі герба Заслаўя і Слоніма. На гербе Заслаўя мы бачым геральдыку, уласцівую для дынастыі Рурыкаў, а на гербе Слоніма — выява льва, які стаіць на задніх лапах, а ў пярэдняй лапе трымае геральдычны знак, уласцівы шляхецкаму гербу "Ліс".

Прыгожы канверт з маляванай маркай, на якім — выява ваўка на фоне геральдычнай тарчы і малюнак Ваўкавыска канца XIX ст., прысвечаны 500-годдзю надання гораду Магдэбургскага права. На другім канверце, прысвечаным падзелам Рэчы Паспалітай і 275-годдзю з дня нараджэння І. Храптовіча, грамадскага і палітычнага дзеяча эпохі ВКЛ, — ёсць выява палаца Храптовічаў у мястэчку Шчорсы, яго партрэт і родавы геральдычны знак.

Спадзяемся, што айчынныя і замежныя філатэлісты звернуць сваю ўвагу на новыя выданні Міністэрства сувязі Беларусі.

***Алег Трусаў,***
***кандыдат гістарычных навук.***

*На верхнім здымку, рэстаўраваная летась Менская ратуша, сімвал колішняй наяўнасці ў горада Магдэбургскага права.*






ВАЎКАВЫСК (канец XIX ст.)

Каму
Куды







Маркі з гербамі Слоніма і Заслаўя




Каму
Куды



Індэкс прадпрыемства сувязі месца назначэння

# Памёр Міхась Наўмовіч

4 сакавіка 2004 года ў Вальпэне, пад Парыжам абарвалася жыццё слыннага сына Беларусі Міхася Наўмовіча. Міхась Наўмовіч – вядомы грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі, мастак, скульптар і выкладчык, сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Нарадзіўся Міхась Наўмовіч 3 кастрычніка 1922 г. у вёсцы Кашалёва на Наваградчыне. Быў сябрам Саюзу беларускай моладзі. У складзе арміі Андэрса, а потым французскага Супраціўлення ваяваў з нацыстамі. У канцы вайны апынуўся на эміграцыі ў Францыі. Міхась Наўмовіч стаяў ля вытокаў стварэння беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі, на працягу доўгага часу быў рэдактарам друкаванага органу беларускай моладзі – часопісу "Моладзь". Да апошняга часу быў старшынём Саюзу беларусаў Францыі "Хаўрус" – найстарэйшай з дзейсных арганізацый беларускай дыяспары ў свеце.

Апошнія паўгады жыцця Міхась Наўмовіч актыўна займаўся працай над успамінамі для кнігі "Месца выдання – Парыж", якая ўключае агляд бачын часопісу "Моладзь" з 1938 па 1954 гг. Кніга ўжо падрыхтавана да выдання Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына". На жаль, Міхась Наўмовіч так і не пабачыў гэтай доўгачаканай кнігі, выданню якой спрыяў.

Смерць Міхася Наўмовіча – вялікая страта для ўсіх беларусаў як на Радзіме, так і ў замежжы. Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларумаў свету "Бацькаўшчына" выказвае самыя шчырыя спачуванні родным і блізкім сп. Міхася Наўмовіча.

**Сябры Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**
**04.03.2004 г. Мінск**

# Навіны кніжнага свету

Урэшце пабачыў свет першы ў гісторыі энцыклапедычны слоўнік "Беларуская міфалогія", што выйшаў у выдавецтве "Беларусь; сярод аўтараў – вядучыя адмыслоўцы ў галіне не толькі традыцыйнай беларускай культуры, фальклору і міфалогіі (Іван Крук, Уладзімір Лобач, Лія Салавей), але таксама археалогіі (Эдвард Зайкоўскі, Людміла Дучыц) – навуковыя супрацоўнікі інстытуту гісторыі НАН Беларусі. Слоўнік прэзентуе беларускую міфалогію як адну з архаічнейшых у індаеўрапейскім свеце, прыналежную да культураў г. зв. "лясной ландшафтавай зоны", што вызначаецца сваёй кансерватыўнасцю і пэўнай "закансерваванасцю", дзякуючы чаму захоўваюць найстаражытныя элементы духоўнае спадчыны.

БЕЛАРУСКАЯ МІФАЛОГІЯ
ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ СЛОЎНІК



Сярод дапаможных школьных выданняў, што з'явіліся за мінулы (2003) год выпучаецца Атлас гісторыі Беларусі старажытных часоў для 4-х класаў.

Шыкоўная паліграфія прыгожа суадносіцца з дасціпнай беларускай мовай, якой выкладзены каментары да мапаў Атласа і навучальным тэкстам з цікавай пазнавальнай інфармацыяй, простым і лёгкім дзеля ўспрымання малодшымі шкалярамі. Аздоблены не толькі мапамі, але і каляровымі ілюстрацыямі цікавы, ўсялякаму дзіцяці, што валодае пісьменствам ды можа прачытаць па-беларуску. Спецыяльны змест Атласу распрацавалі І.А. Пудзеў, Х.С. Кошалеў, А.В. Перзашкевіч: ілюстрацыі да яго рабіў І. П. Корзун.

Знайсці гэтыя, а таксама іншыя новыя ды рэдкія беларускія кніжкі, навуч. дапаможнікі, слоўнікі, часопісы, гэтак жа, як і касеты (аўдыё. відэа) і СД можна ў Менску на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) з 13.30 да 19.30 (у нядзелю да 17.30), апрача суботы.

***Наш кар.***

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

**Ф. СП-1**

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)
**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 3750 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)
**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

# Вяртанне Купалы

Прэзентацыя Поўнага збору твораў Янкі Купалы... Якой яе ўяўлялі? Якой яна бачылася вучоным, пісьменнікам, даследчыкам-архівістам, выдаўцам? Дарэчы, запланавана яна была супрацоўнікамі музея Янкі Купалы яшчэ на 2003 год. Але выданне 9-га тома зацягнулася, бо матэрыялаў набралася на дзве кнігі. І вось нарэшце вялікая справа завяршылася. А распачата была яна ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. У той вірлівы і няпросты час, калі было невядома, а што ж будзе заўтра. Але супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі выявілі надзвычайную мудрасць. Пачынаючы з канца 80-х гадоў, яны былі цвёрда ўпэўнены, што беларускаму народу неабходна вярнуць сапраўдную беларускую літаратуру, аднавіць творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Максіма Гарэцкага ў іх аўтарскай рэдакцыі. Зазначым, што гэта было не так проста. Аддзел тэксталогіі не толькі аднаўляў тэксты творцаў, звяраючы іх з рукапісамі ці першадрукамі, а стараўся гэтыя тэксталагічныя адкрыцці данесці ў першую чаргу да настаўнікаў беларускай літаратуры школ г. Менска ды і ўсёй Беларусі. Выступалі на канферэнцыях і семінарах, чыталі лекцыі для настаўнікаў на курсах павышэння кваліфікацыі, рабілі публікацыі ў розных перыядычных выданнях, пісалі манаграфіі, абуджалі думкі і меркаванні, роздумы і спрэчкі... Ламалі звыклае, традыцыйнае... Усё гэта было вельмі няпроста. І вось сёння перад чытачом дзесяць кніг творчай спадчыны Янкі Купалы. Чаму дзесяць?.. І раней выдаваліся шматтомнікі Янкі Купалы.

Цікавая гісторыя напаткала выданне ў 6-ці тамах 50-х гадоў XX ст. У 1951 годзе былі выдадзены першы том, але яго зліквідавалі. Толькі два асобнікі трапілі ў свой час у музей. Выдадзены другі варыянт 1-га тома ў 1954 годзе адначасова з 6-м томам. Зразумела, што розніца відавочная паміж выдадзенымі варыянтамі першага тома і па аб'ёму, і па зместу. Гэтая з'ява чакае свайго даследчыка.

У 60-х гадах выдадзены чарговы 6-томнік, у 70-х было падрыхтавана і выдадзена сямітомнае выданне Янкі Купалы. І вось з'явілася апошняе выданне ў 9 тамах – 10 кнігах.

Янка Купала – хрэстаматыйны аўтар. Школьнікі знаёмяцца з яго творамі ўжо ў пачатковых класах, пасля амаль штогод вывучаюць яго творы ў 5 – 7 класах, у старэйшай школе жыццёвы і творчы шлях Янкі Купалы падаецца ў храналагічным парадку.

Але сёння, маючы ўжо апошняе выданне твораў народнага паэта, паўстае пытанне, ці ведаем мы творчасць Купалы?..

Рыхтуючыся да 100-годдзя паэта, супрацоўнікі музея заказалі мастаку Міхаілу Савіцкаму напісаць ілюстрацыі да яго твораў. Больш пяці гадоў Міхаіл Савіцкі не проста чытаў, а вывучаў творчасць Янкі Купалы.

Але ў выніку мастак зазначыў, што творчасць Янкі Купалы – паэта, драматурга, публіцыста, літаратурнага крытыка і вучонага не так проста спасцігнуць, бо яна ўяўляе сабой глыбу-айзберг, якая толькі маленькай частачкай адкрылася для нас, а, відавочна, самая каштоўная і значная частка схавана ад большасці чытачоў пад вадой, як той айзберг.

Які ён, наш Купала?.. Той Купала, якога ведаюць ва ўсім свеце, творы якога перакладзены больш як на 80 моў розных народаў. А ці ведаюць беларусы свайго Купалу – публіцыста і вучонага, крытыка і драматурга, грамадскага дзеяча і ... паэта? У апошнім дзевяцітомным выданні мы можам адкрыць для сябе наноў творчасць Янкі Купалы, бо дзесяцігоддзямі не выдавалася публіцыстыка творцы, а вершы Янкі Купалы друкаваліся, не прытрымліваючыся аўтарскай рэдакцыі. Драматычныя паэмы "Адвечная песня", "Сон на кургане", "На папасе", п'есы "Раскіданае гняздо", "Паўлінка" неслі адбітак "аўтацэнзурных і цэнзурных пашкоджанняў". А трагікамедыя "Тутэйшыя", забароненая ў 1926 годзе, не згадвaецца нават у БелСЭ, не была выдадзена і ў час "палітычнай адлігі". А чаму? Доктар філалагічных навук, прфесар І. Я. Навуменка ў кнізе "Янка Купала. Духоўны воблік героя" ў 60-я гады цвёрда заяўляў, што "няма дастатковых падстаў называць "Тутэйшыя" п'есай нацыяналістычнай, як рабілі некаторыя крытыкі і даследчыкі ледзь не да апошняга часу". У 1967 годзе выдадзена была кніга Івана Навуменкі, а п'еса Янкі Купалы яшчэ 20 гадоў была пад забаронай, бо жывучымі аказаліся пэўныя прынцыпы крытыкаў-вульгарызатараў, якія атаясамлівалі перакананні і выказванні мастацкіх герояў з ідэаламі і поглядамі самога пісьменніка. Хаця ва ўсім свеце даўно вядома, што нельга аб'ядноўваць светаўспрыманне персанажаў з пазіцыяй аўтара. Гэты непрафесіяналізм найчасцей выяўляўся ў тых, хто браў на сябе незайздросную ролю "безапеляцыйных палітычных суддзяў" і асмельваліся абвінавачванні кідаць нават народнаму паэту і прароку, класіку нацыянальнай літаратуры. Гэта не што іншае, як абмежаванасць, якая нараджала "правінцыйнае ўяўленне пра сутнасць мастацтва наогул".



Поўны збор твораў Янкі Купалы

Янку Здольніку, персанажу трагікамедыі, горакрытыкамі прыпісваліся нацыяналістычныя погляды, але як сцвярджаў Іван Навуменка, "гэта абсалютна беспадстаўна". Уся справа ў тым, што ў 20-я гады XX ст. такі ўзровень нацыянальнай свядомасці меўся ў большасці беларускай інтэлігенцыі. Такой яе ведаў Янка Купала, такой і паказаў. Сапраўды, Янка Здольнік выказвае клопат аб нацыянальнай адукацыі, нацыянальнай культуры, але гэта павеў таго часу, пэўнай эпохі, народжаны, магчыма, нават абнародаваным ленінскім прынцыпам аб праве кожнага народа на самавызначэнне. А Янку Купалу балела і хвалявала сама сутнасць "тутэйшасці" беларусаў. Яшчэ ў 1913 годзе паэт напісаў верш "Тутэйшы", дзе лірычны герой дае сам сабе вызначэнне-характарыстыку:

***Ад прадзедаў і***  
***бацькаўшчыну ўзяў –***  
***Вялікая, багатая яна! –***  
***Граніц ніхто йшчэ***  
***вокам не абняў,***  
***Як Бог адзін –***  
***яна ў мяне адна.***

***А як завуць край гэты***  
***родны мой –***  
***Забыўся ўжо***  
***праз свой прыгон і здзек;***  
***Мабыць, забраны,***  
***ці тутэйшы ён,***  
***Я ж сын яго –***  
***тутэйшы чалавек!***

..............................................

***Спаўняючы, што трэба,***  
***а што не,***  
***Сяк-так мой цягнецца***  
***на свеце век,***  
***А як памру,***  
***то буду спаць, як пан,***  
***І сніць, што я***  
***тутэйшы чалавек!***

З прыведзенай цытаты відаць, што герой ганарыцца сваёй Бацькаўшчынай, немалой, багатай, падкрэслівае сваю духоўную непадзельнасць з ёй. Але перад чытачом паўстае асоба ў пэўнай ступені іранічная і трагічная, якая не ў станс вызначыць, што добра, а што дрэнна, што павінен рабіць "тутэйшы чалавек", а што не. Гэта гістарычная трагедыя ўсёй Беларусі, якая стагоддзі існавала ў "забраным краі", дзе забаранялася нацыянальная мова, вынішчалася беларускамоўная адукацыя, разбуралася нацыянальная царква, а ў 1832 годзе зачынены быў універсітэт у Вільні... Усё гэта спарадзіла недастаткова развітую свядомасць у беларусаў, бездухоўнасць, абмежаванасць, якія ў працэсе перараджаліся і набывалі парадыйнакамічныя выяўленні пагарды да ўсяго свайго, нацыянальнага, а пасля штурхалі чалавека на адкрытую здраду свайму народу.



Галіна Дзягілева

Як ніхто іншы Янка Купала разумеў сутнасць гэтай трагедыі. Ведаў ён і тое, што слова "тутэйшы" было адэкватным па сэнсу слову "беларус". Усе дзейныя асобы трагікамедыі "Тутэйшыя" – беларусы. Нават настаўнік з італьянскім прозвішчам Спічыні – беларус, а Усходні вучоны – сын мясцовага дзяка, Заходні вучоны – сын мясцовага арганіста, прадстаўнікі розных сацыяльных груп – гэта ўсё беларусы з пэўным адукацыйным і духоўным узроўнем, з пэўным жыццёвым укладам. Натуральна, што вучоны Віктар Каваленка ў свой час задаў пытанне, "чаму ж тады Янка Купала не назваў п'есу "Беларусы"?".

Менавіта такога кшталту пытанні і вызначылі, якой павінна быць прэзентацыя Поўнага збору твораў Янкі Купалы ў дзевяці тамах.

На ўсе пытанні найбольш дакладна могуць адказаць творы Янкі Купалы, яго жыццёвы шлях і той асяродак, які спрыяў станаўленню нацыянальнага паэта.

Усім добра вядома выказванне народнага паэта, што першымі яго настаўнікамі былі народныя казкі, легенды паданні, але мала каму вядома, што матуля паэта мела цудоўны голас, за які яе называлі "Бянігна-пявуння". Матчына песня – народная калыханка – гучала над калыскай маленькага Яся. Таму і адкрывалася вечарына мелодыяй народнай песні ў выкананні заслужанай артысткі Таццяны Мархель. А тэатр беларускай драматургіі прадставіў фінальную сцэну драматычнай паэмы Янкі Купалы "Адвечная песня", бо менавіта гэты твор, напісаны ў 1908 годзе, практычна на пачатку творчага шляху, увасобіў і глыбокую жыццёвую філасофію, і трагізм беларускага народа, і мастацкі малюнак з выключнай сілай мастацкага абагульнення.



Падчас прэзентацыі

# ШЛЯХЦІЦЫ КАНАПЛЯНСКІЯ. ГЕРБ "НАВІНА".

***Паважаная рэдакцыя!***

***У Вашай газеце № 7 за 18 лютага змешчаны спіс кіраўнікоў паўстання 1863 года. У спісе ёсць і Францішак Канаплянскі. А гэта мой зямляк. Дакладней, мой прадзед у 1881 годзе пасяліўся на былой зямлі Францішка, канфіскаванай і перапрададзенай. У мяне сабраны значны матэрыял з гісторыі Канаплянскіх. Амаль усе яны былі ўдзельнікамі паўстанняў. Думаю, што гэты матэрыял можа вас зацікавіць (Прыкладаю).***

***Апроч таго, у мяне маецца нямала звестак з роду Лапацінскіх і Вярыгаў (што памянуты ў спісе) і пра іншых. Наогул, я сабраў прозвішчы 170 удзельнікаў паўстання 1863 года па нашаму Дзісненскаму павету. А таксама, больш 300 прозвішчаў паўстанцаў 1831 года па гэтаму ж павету.***

***Ляскоўскі Уладзіслаў, краязнаўца.***

Канаплянскія здавён вядомы на розных пасадах у Браслаўскім павеце. У 1768 г. Францішак (Франц) Канаплянскі – каморнік Браслаўскага павету.

Франц Канаплянскі разам з сынамі Янам (Іванам) і Якавам купляюць у 1801 годзе у графоў Лапацінскіх фальварак Камарова (Камароўшчына) з 11 вёскамі пры ім і фальварак Нізіна з 2 вёскамі. Надалей Канаплянскаму Якаву пераходзяць маёнтак Камароўшчына з вёскамі і засценкамі Запруддзе, Зароззе, Астраўкі, Барадзінцы, Каўшэлева, Богаўшчына, Зарэчча, Старая Борць, Ляндэрня і Сынадворцы. Ён будуе свой двор у Забор'і. Івану Канаплянскаму пераходзяць фальварак Нізіна з вёскамі Дварышча і Васілеўцы.

Канаплянскія прынялі актыўны ўдзел у паўстанні 1831 года.

Ян (Іван) Францавіч паўстанцкім Камітэтам прызначаны камісарам Пагосцкага ключа. Пасля царскімі ўладамі пасаджаны ў Дынабургскую цвердзь, асуджаны да пакарання смерцю, потым памілаваны. Ягоныя сыны малалеткі Адольф і Дамінік, удзельнікі паўстання, змешчаны пад нагляд паліцыі.

Малалетка Генрых Якаўлевіч з Забор'я таксама памілаваны і змешчаны пад нагляд паліцыі. Канаплянскі Бенядыкт Феліксавіч падпісаў Акт Канфедэрацыі. Прысуд: змясціць пад нагляд паліцыі, не дапускаць да службы, пазбавіць выбарчага права і права выезду з маёнтка.

У спіску дваран першага разраду за 1840 год (НДА, Гродна, ф. 1626, воп. 1., спр.1) за № 80 значацца: Канаплянскі Іван Францавіч, 58 гадоў, фальварак Дварышча. Ягоны сын Дамінік, 25 г., сын Адольф, 22 г., фальварак Нізіна, сын Апалінар, 14 г., сын Міхаіл, 11 год.

Канаплянскі Якаў Францавіч, 50 гадоў, фальварак Забор'е. Ягоны сын Генрых, 18 г., сын Флёранцін, 16 г., сын Францішак, 15 г. (гэта будучы ўдзельнік паўстання 1863 года), сын Іван, 11 г., сын Ільян, 8 г., сын Аляксандр, 7 г., сын Тэадор, 5 г., сын Эдвард, 4 г.

Жонка Івана Францавіча, Канстанцыя, 40 г. іх дачка Ружа (Разалія), 29 г, дачка Караліна, 5 г.

Жонка Якава Францавіча, Юзэфа з Брашкоўскіх, 40 г., іх дочкі Караліна, 20 г., Канстанцыя, 17 г., Моніка, 13 г., Марта, 9 г., (12 дзяцей).

У спісе маёнткаў за 1838 год (Мінск, ф.299, в. 2, сп. № 1236) значыцца: "Фальварак Камарова Якава Канаплянскага. Да яго належаць: засценак Запруддзе (мужчын 6, жанчын 7), вёска Падзапруддзе (Забор'е) (м. 12, ж. 19), в. Астраўкі (м.9, ж.11), в. Барадзінцы (м.37. ж.42), в. Кашалёўшчына. (Каўшэлева) (м.17.ж.25), в. Бапеўшчына (Богаўшчына) (м.11, ж.13), в. Зарэчча (м.9, ж.11), в. Дальняя Борць (Старая Борць) (м.11, ж.14), в. Галяндэркі (Ляндэрня) (м.10. ж.13), в. Сынадворцы (м.15. ж.20), фальварак і вёска Камароўшчына (м.46. ж.57).

Фальварак Нізіна Івана Канаплянскага, да яго належаць в. Дварышча (м. 20, ж.22), в. Васілеўцы (м.22. ж.25)."

Паўстанне 1831 года, якім кіравала шляхта і ўдзельнічалі ў ім паслушныя прыгонныя сяляне, дало штуршок для вольналюбства і імкнення сялян да вызвалення ад прыгону. Шматлікія дакументы 1840-х – 50-х гадоў сведчаць аб пошуках шляхоў вызвалення.

Паказальны ў гэтым плане канфлікт групы сялян вёскі Сынадворцы з Якавам Канаплянскім (Менск, ф. 299, в. 2. спр.1637)

Сяляне падаюць скаргі ў Дзісну (павет), потым у Менск губернатару, затым Віленскаму акружному губернатару, напаследак, самому Імператару.

Справа цягнецца з пачатку 1841 года да канца 1843 года, маецца 221 аркуш дакументаў. Вядома, сяляне на скаргах распісваюцца толькі крыжыкамі, а пішуць за іх скаргі многія шляхціцы і пісары, якія спачуваюць сялянам.

За Канаплянскага таксама арганізуецца група падтрымкі, што баіцца "дурнога прыкладу" гэтых сялян.

Вось урывак з названай справы:

"Віленскаму губернатару Фёдару Якаўлевічу Міркoвічу. 23.01.1841 г. "От Андрея и Михаила сынов Мартьяна, Лаврентия и Андрея сынов Захара, Андрея сына Григория Андреевва Котовичей.

За административным владением Погосцкой Римо-Католической церкви св. Тройцы фундуша Ксендзом Иосифом Писляком уже более 70 лет как родители наши Захар и Мартин сыновья Никифоровы переместились из фундуша позначенной церкви к бывшему тогда помещику Дихдёвскому, а ныне под пом. Яковом Коноплянский по случаю стеснения на природной земле фундуша, по выданному ксендзом Пасляком увольнительному свидетельству, а по его смерти – получили увольнительную от ксёндза Франца Жабы и жили там же в д. Сонодворцы и уплачивали п. Коноплянскому за содержание земли уговоренную плату. Во время народной переписи 1795 г. пом. Коноплянский вытребовал от родителей упомянутые два свидетельства и уничтожил их, поместил родителей в число своих крестьян." (Заўвага Ул. Л.: Канаплянския володаюць гэтай зямлёй толькі з 1801 года).

Узнав об этом они просили настоятеля Погосцкого костёла Якова Ластовского о возвращении в фундуш костёла. Он заверил, што они числятся в фундуше. В 1834 году во время всенародной переписи мы явились к опекуну фундуша графу Игнатию Ширину, но он не внёс нас в ревизские сказки. Коноплянский склонил на свою сторону нынешнего настоятеля костёла Иоанна Ширина… на наши жалобы п. Коноплянский проявил злобу: забрал наши два дома и имущество стоимостью 2000 руб. сер… комиссия заклепала в кандалы старосту Леона Котовича да Казимира и Константина Котовичей и отправила в Дисненскую городскую тюрьму.

Григорий Котович скрывается… Писал дворянин Александр Николаев сын Ежицкий."

З рапарту Дзісненскага гарадскога суда генерал-губернатару:

"Яшчэ ў 1759 дзед Нікіпар Катовіч запісаны цяглым селянінам у в. Сынадварцы. Дакументаў аб прыналежнасці Катовічаў да касцёла няма. Сялян бунтуюць стараста Лявон і арганісты Вінцэнт Катовічы, а таксама, Аляксандр Павучонак, за што атрымалі 6 бочак льнянога семя, 2 вазы лёну і інш. Пісары атрымалі грошы. Андрэй Катовіч і Юрка Русацкі знойдзены у вёсцы Малінова ўзброеныя...

Замірыліся такім чынам: Канаплянскі вярнуў Катовічам хаты і 4-х кароў, абавязаўся вярнуць ім астатніх 9 галоў буйнай рагатай жывёлы і 4-х свіней калі яны заплоцяць 378 руб. падаткаў і 250 руб. чыншу і не будуць бунтаваць." (Заўвага У. Л.: як бачна, бунтавалі не бедныя сяляне!)

З уладамі канфліктуе і шляхта. Ян (Іван) Канаплянскі праяўляе вынаходлівасць і хітрыкі, каб не аддаць уладам жывёлу, што апісана за даўгі (М. НГА, ф.299,в.2,сп.1383) Судовая справа цягнецца з мая 1840 г. па лістапад 1842 г. Спаганяецца ў казну 149 руб. 65 і 44 кап. серабром за недакладнасць у справаздачы Івана Канаплянскага за 1835 год.

Прыстаў Кнобэньсдорф апісвае 2 коней і 30 галоў буйной рагатай жывёлы на суму 149 руб. 70 кап. сер., у тым ліку кароў дойных 15 па 5 руб. 5 кароў маладых таксама па 5 руб, коні па 21 руб, авечак 10 па 77 капеек. За непісьменных сведак-панятых акт падпісвае святар Новапагосцкай царквы Венядзікт Любінскі. Аб'яўляюцца публічныя таргі на жывёлу.

Засядацель суда Вінча рапартуе, што на таргі ніхто не з'явіўся. Ян Канаплянскі падае тлумачэнне, што з апісанай жывёлы 12 штук здохла. Далей, пісар 2 стану (яўна па змове з Канаплянскім – заўвага У.Л.) аддае жывёлу пад нагляд Казіміру Ламброве, які жыве у Лепельскім павеце. Судовая справа перасылаецца ў Лепельсі земскі суд. А ён не знаходзіць там жывёлы. Тым часам у перапісцы праходзіць больш году. 1 кастрычніку 1841 года дамброва тлумачыць суду, што жывёла знаходзіцца у Якава Канаплянскага – брата Яна – у маёнтку Камарова (побач з маёнткам Нізіна), і ў Нізіне. Камісія знаходзіць у Нізіне толькі 2 дойных кароў, 6 авечак і 2 коней. 29 студзеня 1842 года ўжо у Якава Канаплянскага апісана 18 кароў на 90 руб. 3 коней на 60 руб. Суд патрабуе ад Якава аплаціць нядоімку брата ў памеры 318 руб. 91 і 0,5 кап. серабром. Якаў не плаціць. У яго паўторна апісана кароў дойных чорных 10 па 7 руб., кароў руда-стракатых 10 па 7 руб. 50 кап., кароў чорна-стракатых 10 па 6 руб. Валоў рабочых рознамасных 8 па 8 руб, падцёлкаў 12 па 4 руб, цяля 1 за 2 руб. Усяго 51 галава на 319 руб. Толькі пасля гэтага Якаў і Іван плацяць нядоімку.

У гэты час Якаў Канаплянскі займае пасаду адміністратара дваранскай апекі Дзісненскага павету, апякуецца над маёнткам Аўласы, што канфіскаваны ў Францішка Юндзіла за ягоны ўдзел у паўстанні 1831 года. Юндзіл збег ад пакарання ў Швейцарыю.

Сын Якава з ф. Забор'е Франц (Францішак) Канаплянскі (1814 –1864 гг). Адстаўны паручнік, з 1859 года на пасадзе засядацеля ад дваранства ў Віленскай палаце грамадзянскага суда. У 1863 годзе Кастусём Каліноўскім прызначаны паўстанцкім цывільным начальнікам Віленскага ваяводства, выконваў адказную работу па арганізацыі і матэрыяльным забеспячэнні паўстання.

Прыводзім **"Показания Ф. Коноплянского Виленской асобой следственной комиссии о структуре, составе и деятельности повстанческой организации Виленского воеводства"** (са скарачэннямі). ("Паўстанне ў Літве і Беларусі" т. 2. ст. 166. арігінал у Вільні, ф. 1248. в. 1. справа 468. ч. 2. бачыны 224-248).

*"6 октября 1863 г. Склоняемый мало-помалу к сознанию, Коноплянский спрашивал и показал: не помню дня, кажется в первой половине июня с.г. я встретился с Дю- Лораном, которого знал только па фамилии, и остановясь возле своей квартиры, вступил с ним в разговор, по-следствием которого было предложение с его стороны, чтобы я прынял участие в польской организации… на другой же день Дю-Лоран явился ко мне на квартиру с каким-то господином. Предложив мне принять абязанности начальника губернии по организации, Дю-Лоран абъявил, что все подробности, объясняющие эту должность, и сведения о лицах, с которыми поставлен буду в абязанность относиться, я получу от прішедшего с Дю-Лораном господина. Господин этот назвавшийся Константином (Калиновским), вручил мне номинацию и три печати… Он абъяснил, что моя абязанность будет состоять в следующем:*

*1. Обратить самое сильное внимание на поспешность взыскания податей.*

*2. Из числа доставленных начальниками уездов податных сборов 1/8 часть оставлять у себя на случай непредвиденных расходов, а остальные передавать ему, Калиновскому.*

*3. Собирать, сколь возможно, точные сведения о находящихся в уездах партиях (так назывались отряды восставших – примечание в сноске), о средствах их существования как по части их продовольствия, так относительно их снаряжения… Калиновский … называл мне всех лиц, с которыми я должен сноситься как с начальниками уездов: … Дисненского – Обрампольский (студент от Дисны)… Обрампольский дал знать письмом через доктора Шимкевича, что хотя у него в уезде существуют ещё достаточные запасы денег и снаряжэния, но, судя по ослабевшей поддержке обывателей и общему упадку духа, трудно надеяться продлить движение без иностранного вмешательства… обо всех этих сообщениях я тогда же передалвал словесно Калиновскому…*

*Франц Яков Коноплянский".*

Па ўспамінах старажылаў, пасля задушэння паўстання пан Канаплянскі хаваўся ад уладаў у сябе на радзіме. Сяляне выдалі яго ўладам. Асуджаны на катаржныя работы. Памёр па дарозе на катаргу (Двухтомнік АН. стар.163). Пахаваны на фамільным могільніку ў Забор'і (каля Каўшэлеўскай школы). Надмагільны помнік (каплічка) зруйнаваны ў пасляваенны час. Месца расчышчана пад спартыўную пляцоўку школы.

Канфіскаваны маёнтак Забор'е купіў "с публічных торгов" у 1876 г. у Вільні адстаўны штабс-капітан Маслаў Пётр Мікалаевіч. Высекшы і распрадаўшы лес, Маслаў у 1881 годзе ўсю зямлю кавалкамі распрадае сялянам.

Апошні нашчадак Івана Канаплянскага – Віталь Міхайлавіч Канаплянскі жыў у фамільным фальварку Васілева са сваёй маці да 1943 года. Меў 40 га зямлі. Такіх у 1940 годзе ўсіх павывезлі ў Сібір або знішчылі ў Беразвеччы. Віталь мінуў гэтага лёсу толькі дзякуючы сяброўству са старым рэвалюцыянерам Маляўкам Юльянам, які ў гэтыя крываыя гады працаваў старшынём Каўшэлеўскага сельсавета. У ліпені 1943 года нямецкія ўлады арыштавалі Маляўку Юльяна і яшчэ 4-х чалавек за сувязь з партызанамі. У гэты ж час арыштавалі і Канаплянскага Віталя, абвінаваціўшы яго, што ён як бы меў сяброў сярод партызан. Яго павесілі на скрыжаванні вуліц у Новым Пагосце. Так загінуў нашчадак знакамітага ў 19-м стагоддзі роду Канаплянскіх. Калі ж прыйшла маці Віталя і папрасіла дазволу развітацца з сынам, ёй адказалі: "Калі загаласіш, то будзеш вісець побач з сынам. Калі не заплачаш, то можаш развітацца". Маці валодала вялікай воляй, развіталася без плачу.

Савецкая ўлада не заўважыла ахвярнай смерці шляхціца Віталя Канаплянскага. Сярод удзельнікаў вайны яго не згадваюць. Магіла згубілася.

***Сабраў Ул. Ляскоўскі.***

# “Шлях да Малітвы”




Выдавецтва “Беларускі кнігазбор” выпусціла ў свет кнігу-споведзь “Шлях да малітвы” беларускай пісьменніцы Алены Кобец-Філімонавай. Невялікую па памерах, усяго 75 старонак. Аўтар пісала так, каб словам было цесна, а думкам прасторна. Гэта ўспаміны і роздум аб тым, як з-за біяграфіі бацькі яна - дачка “ворага народа” - не стала музыкантам, аб чым марыла з маленства. Гэта споведзь пра тое, як нарадзілася Малітва, створаная пісьменніцай з думак вялікага мысліцеля і гуманіста Льва Талстога, якая дапамагла ёй выжыць, калі апынулася ў экстрэмальнай сітуацыі:

***Госпадзі! Дай мне душэўны спакой,***
***Каб прыняць тое, што я не магу змяніць,***
***Мужнасць - змяніць тое, што магу,***
***І мудрасць -***
***зaўсёды адрозніваць адно ад другога.***

Малітвы бываюць розныя. Часцей за ўсё ў іх - пакорнае маленне.

А гэтую малітву можна назваць рэвалюцыйнай. Бо калі просіш у Бога мужнасці, каб змяніць тое, што можаш, - гэта не пакора, а гатоўнасць да барацьбы за сваю чалавечую годнасць.

У кнізе цікавыя старонкі аб тым, як пісьменніца вучылася на вышэйшых літаратурных курсах імя М. Горкага ў Маскве. Аб цкаванні А. Твардоўскага за яго паэму “Па праву памяці”, аб лёсе іншых цікавых людзей у час таталітарнага прыгнёту. Пісьменніца называе сябе “Бімам з чорным вухам”. Усё жыццё яна пражыла з кляймом дачкі “ворага народа”, што не магло не адбіцца адмоўна на яе лёсе. Дзіўна, але і сёння, калі ёй ужо за семдзесят, яна адчувае да сябе непрыязнасць некаторых асоб, якія захавалі светапогляды савецкіх часоў і самааддана служаць сучасным уладам. Але Малітва, створаная ёю, дапамагае супрацьстаяць нягодам і несправядлівасці.

Малітва, як толькі нарадзілася, адразу “пайшла ў людзі” і стала папулярнай не толькі ў Беларусі, але далёка за яе межамі. Яе перапісваюць адзін у аднаго, або запісваюць па памяці сваімі словамі. Яна стала народнай.

“Шлях да Малітвы” можна набыць у кнігарнах:


Алена Кобец-Філімонава нарадзілася 13 кастрычніка 1931 г. у сям'і вядомага драматурга Рыгора Кобеца, які стаяў ля вытокаў нацыянальнага тэатра і кіно (аўтар фільмаў «Двойчы народжаны», «Шукальнікі шчасця», [illegible]). Закончыла Белдзяржкансерваторыю па класу рояля (1969). Вышэйшыя літаратурныя курсы імя М. Горкага (1971). Працавала рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм» (1971–1972), у выдавецтве «Юнацтва» (1981–1983). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1965 г. Аўтар больш дзесятка кніг. Сярод іх: зборнік казак «Блакіт дзівосаў» (1986), аповесць «[illegible] над Хатынню» (1973, Масква), раман «Агні за перавалам» (1985). У перыядычным друку апублікавала дакументальныя аповеды пра драматургію бацькі.

“Цэнтральны”, “Акадэмкніга”, “Кнігарня пісьменніка”, “Веды”, “Светач” і “Падпісныя выданні”.

На жаль, тыраж невялікі, усяго 250 ас., бо выдадзена за ўласныя грошы пісьменніцы, якія яна збірала доўгія гады.

***Наш карэспандэнт.***

# Памяці Наталлі Арсенневай

Наталля Арсеннева - яркая па духу і гранях свайго таленту беларуская паэтка, якую доўгія гады і дзесяцігоддзі ўлады хавалі ад свайго народа, і толькі цяпер як творчасць у нас, на Беларусі, спакваля набывае вядомасць і прызнанне.

Увосень мінулага года, сабраўшыся ў Доме літаратара ў Менску, грамадскасць адзначыла сто гадоў з дня нараджэння Н. Арсенневай, і нарадзілася яна ў г. Баку, паходзіла з роду Арсенневых-Лермантавых, толькі гэтакая акалічнасць не перашкодзіла ёй у далейшым стаць сапраўдным дзіцём беларускай культуры, здольным стварaць паэтычныя шэдэўры; яе пяру належыць таксама і верш, які па-сапраўднаму з'яўляецца нацыянальным гімнам, - “Магутны Божа”.

З нагоды ўшанавання памяці палымянай дзяячкі на ніве самасцвярджэння беларусаў утвораны грамадскі аргкамітэт, у які ўвайшлі Рыгор Барадулін, Лявон Баршчэўскі, Анатоль Белы, Анатоль Грыцкевіч, Сяргей Законнікаў, Пётр Краўчанка, Анатоль Крывенка, Мікола Лавіцкі, Георгі Ліхтаровіч, Леанід Лыч, Алена Макоўская, Хведар Нюнька, Алесь Пашкевіч, Іван Саверчанка, Лідзія Савік, Мікола Савіцкі, Аляксей Саламонаў, Алесь Цыркуноў, Алесь Шатэрнік, Васіль Якавенка.

Вырашана выканаць у метале ды ўрачыста адкрыць барэльефы паэткі Н. Арсенневай, адзін, усталяваны на камені, - у сядзібе Музея выяўленчага мастацтва фонду Анатоля Белага ў г. Старыя Дарогі, другі - на фасадзе будынка Беларускай гімназіі ў Вільні, дзе Н. Арсеннева паспяхова вучылася, спасцігаючы найперш этнічныя асновы, паэтычны рытм і мелодыку беларускасці.

Аўтарамі барэльефных помнікаў выступаюць мастакі і скульптары Анатоль Крывенка і Алесь Шатэрнік, а фундатарамі праектаў - Анатоль Белы і Пётр Краўчанка.

Адбылося першае пасяджэнне аргкамітэту.

Аргкамітэт мяркуе, што на ўрачыстасць, якую плануецца наладзіць у другой палове траўня гэтага года, збяруцца неабыякавыя да нацыянальнага жыцця і культуры беларусы, як непасрэдна з Бацькаўшчыны, так і з краін блізкага і далёкага замежжа.

Дата адкрыцця помнікаў будзе абвешчана дадаткова.

**Старшыня аргкамітэту Пётр Краўчанка.**

**Сустаршыні: Сяргей Законнікаў, Васіль Якавенка.**

# Весткі з Віленшчыны

Паведамляю, што запланаванае на канец сакавіка 2004 года мерапрыемства на тэму: **“Дзень беларускай паэзіі, мовы, малітвы...”**, прысвечанае памяці Ф. Багушэвіча ў сувязі з хваробай старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю Гіля Ю. пераносіцца і адбудзецца ў Свіранах Віленскага раёна 29.05.2004 года (апошняя субота траўня месяца).

Да гэтага часу будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка Ф. Багушэвічу ў Рукойнах (там паэта хрысцілі), а таксама будзе ўстаноўлена Фігура Маці Божай перад Крыжом Паўстанцам 1863 г. у Свіранах. Чакаецца дэлегацыя з Менска на чале з Ул. Содалем.

Запрашаем ахвотных прыехаць на гэтае свята.

***Старшыня ТБМ Віленшчыны Юры Гіль.***

Беларуская мова - ТБМ - наша будучын…

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Васілеўскі Анатоль -100.000 р., г. Менск
2. Горбач Алесь - 5 дол., г. Баранавічы.
3. Мімчук Георгі - 15000 р., г. Менск.
4. Зайкоўскі Павел - 4000 р., в. Кунцаўшчына.
5. Каліноўскі К. - 5000 р., г. Менск.
6. Ліжоўчык Святлана - 6000 р., г. Белаазёрск.
7. Скрэчка Анатоль - 10000 р., г. Мазыр.
8. Згрундо Ірына - 5000 р., г. Жодзіна.
9. Валадзько Вадзім - 2.500 р., г. Менск.
10. Жабінская - 7000 р.
11. Петрукові Васіль - 12000 р., г. Менск.
12. Шкірманкоў Фелікс -- 10000 р., г. Слаўгарад.
13. Мянькоў Юры - 5000 р., в. Баравая.
14. Лягушаў Алег - 5000 р., г. Менск.
15. Стральцоў Алесь - 50000 р., г. Менск.
16. Чэчат Алесь - 10000 р., г. Менск.
17. Сенанкевіч Лілея - 5000 р., г. Менск.
18. Савіч Маргарыта - 5000 р., г. Менск.
19. Сабалеўскі Антон - 100 дол., г. Масква.
20. Павел Чайкоўскі - 5000 р., г. Кунцаўшчына.
21. Паліклініка г. Шыткавічы - 20000 р.

Таварыства беларускай мовы пры правядзенні мерапрыемстваў у абарону беларускай мовы нясе значныя матэрыяльныя выдаткі. Просім па меры магчымасці падтрымаць Таварыства.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | Пеня | |
| | | | Разам | |

**Квітанцыя**

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**

## *Адказы на крыжаванку са ст. 12.*

**Па гарызанталях:** 1.Параграф. 7.Скарынка. 12.Пацук. 13.Тэкстура. 14.Пралеска. 15.Дыван. 17.Кантон. 18.Душнік. 19.Траса. 22.Накат. 24.Талон. 31.Зман. 32.Абалонь. 33.Вуда. 34.Аршын. 35.Юнона. 36.Краж. 38.Курсант. 41.Рана. 44.Малі. 45.Арыя. 46.Санацыя. 48.Зебра. 49.Маланка. 53.Рычаг. 56.Прастор. 57.Суткі. 58.Лайка. 59.Кабул. 60.Аплік. 61.Грамада. 64.Пірог. 67.Адрасат. 69.Вобла. 70.Кантата. 74.Кадр. 75.Рыга. 76.Елка. 79.Анафара. 81. Паля. 83.Рэбус. 84.Баржа. 85.Этна. 86..Каланча. 87.Пано. 88.Астат. 92.Латка. 97.Арган. 100.Легіён. 101.Рэктар. 102.Нарцыс. 103.Авантура. 104.Фанатэка. 105.Вілія. 106.Абаранак. 107. Каланада.

**Па вертыкалях:** 1.Патэнт. 2.Ракіта. 3.Готыка. 4.Адрына. 5.Марына. 6.Рулада. 8.Карона. 9.Рэлікт. 10.Насціл. 11.Атаман. 15.Дон. 16.Нут. 20.Рымар. 21.Сенаж. 23.Колас. 25.Адвар. 26.Ордэнд. 27.Каштарыс. 28.Банкір. 29.Ньютан. 30.Акалышак. 36.Кансерваванне. 37.Акын. 39. “Ракета” 40.Апарат. 42.Азон. 43.Аўтабіяграфія. 47.Акаліна. 50.Акуліст. 51.Шпагá. 52.Аркан. 54.Гак. 56.Сом. 57.Суп. 62.Адозва. 63.Адліга. 65.Каламбур. 66.Марганын. 68.Раёк. 71.Арфа. 72.Краска. 73.Грабар. 77.Лотас. 78.Арама. 80.Франт. 81.Папар. 82.Лінза. 88.Адвага. 89.Тырада. 90.Плотка. 91.Крызіс. 95. АЭС. 96.Страфа. 97.Армада. 98.Гарэза. 99.Нарада.

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 58. БРАТЧЫКІ

Бачылі ў іх наглядчыкаў
Храмавай дробнай справы.
Сталі ж сям'ёю братчыкаў
Матухны праваслаўнай.

Пошасці пашча зеўрала,
З чорнай прыйшла гадзінай.
Воінства іншаземнае
Рынулася на радзіму.

Панства жа бесклапотнае,
Не апусціўшы вочы,
Слова згубіла роднае,
Здрадзіла веры ойчай.

Каб яшчэ вернік юны.
Пастыр несамавіты –
Збег да жаданай уніі
Старац мітрапаліты.

Што ж, галава лядачая
Толькі і лемантуе.
Дык ці яна, о спадчына,
Голас твой уратуе?

Перад народнай воляю
Вецер чужынны марны.
Полымя тлум адолее.
Скажуць сваё друкарні.

Не, ашуканства рэчышчу
Ў храме не быць Хрыстовым.
Праўду усю аб нечысці
Выгукне наша слова.

Ці ты, Айчына - гульбішча
Выхрыстаў і зняверцаў?!
Той, хто жывы пакуль яшчэ,
Ўздымецца, адзавецца.

### 59. ЗАКОН

Быў у продкаў трывалы абрад,
Як гавораць пра тое паданні –
Знаў куток і тады ясны лад.
Непарушны закон старадаўні.

І яднала ў ланцуг-радавод
Непарушнай стрыжнёваю сілай.
Між упартых лясоў і балот
Само сонца судзіла-радзіла.

Не кулак павышаўся ў цане,
Ад жывёльнай жыруючы злосці.
С цвёрдым словам ішлі па Дзвіне
Гандляваць да нямецкага госця.

І ў тлумныя шалу вятры
Выратоўвала моц рытуалу.
У глыбінях тутэйшай крыві
Нешта іскру заўжды пагасала.

Ён выходзіў з нутра лад-наказ,
Баранілі ад слёзнага гора
І бязлітаснай смерці няраз
Нашы вуніі нас, дагаворы.

Зваўся імем жа годным сваім
Нат жыхар невялікага росту.
Меў правы і русін, і ліцвін
У надзейным
пергаменце тоўстым.

З часам сталела мудрасць зямлі.
Дужаў ісцінай голас прысуду,
Як апосталаў кнігі. Прыйшлі
Да літоўскага люду статуты.

Помнім – годнасці продкаў яны
Абаронцамі мудрымі сталі,
А другія драбнелі званы
І цямнелі былыя скрыжалі.

І ўжо болей, здаецца, нідзе
Край не ведаў сабе спадзяванняў.
Ад апрычнай навалы ў бядзе
Ратаваўся яго грамадзянін.

Наш статут
гаіў царстваў мігрэнь.
Лекаваў іх нядужыя целы.
А ўсё часу большаўся цень,
Паласа паміж дыму вузела.

### 59. ЗЯМЛЯ ПАСЯРЭДНЯЯ

Сварыліся каралі,
Люцелі князі ненаедныя.
Між стрэлаў, натоўпаў, крыві
Дзяржава была пасярэдняя.

Сябе ля прытульных варот
Не ўсведамляла гранітнаю.
Вучыла рахманы народ
Спагадна дзяліцца малітваю.

Яшчэ непакоіўся свет,
Хваробай нядужыў заразнаю.
Паўсюдна за статкі свае
Змагаліся хцівыя пастыры.

Але пераконвала зло
Бярозы харугва паніклая.
Да згоды і сонца цяпло
Прастору памежную клікала.

А тут у вачах мітусні
Набегла ад рыжых завілін.
Радзіму чужынцаў хвасты
Лісіныя запаланілі.

Прыстойныя з віду паны,
Былі ўжо занадта разумныя.
І купалы побач яны
Саборныя неяк задумалі.

Паплечнікаў ласых сям'ю
Вялікай надзеяю цешылі.
Абдымкамі сціснуць зямлю,
Душу меркавалі тутэйшую.

Круціліся гнутка спярша.
Утойвалі нораў задзірысты.
А рускія людзі мяжа -
Сцішэла – на храм пагадзіліся.

Цярпелі папы ад усіх,
Былі невялікія здольнікі.
Улада вось тузала іх,
Свае дапякалі крамольнікі.

Хто знаў аб каварстве маны?
Але ж старану нашу родную
Вось так баранілі яны.
Пра мірную марылі, згодную.

Пра добрай вясёлкі брыво
Над возера яснай вачніцаю,
Каб толькі Хрыстова святло
Бруілася чыстай крыніцаю.

Страшыліся вельмі вайны.
Сысціся з хвастамі лісінымі
Хацелася звонам адным.
А выйшла – бы клінам асінавым.

### 60. АПОШНІ
### (Л. Сапега)

Спакваля захлынала Айчыну
Чужыны імжа.
Дзякуй Богу – пакінуў у час
Краю крэмень-паставу.
Не любілі палякі назолу,
Бо перашкаджаў
Марадзёрам ліхім расцягаць
Па кавалкам дзяржаву.

Поўніў чыстаю хваляй яго
Да глыбінь родны дом.
Як яшчэ ўглядаўся ў граматы
Нашы старыя.
Светлых розумаў памятаў
Словы высокія ён,
Што яму, юнаку,
Аб Радзіме яго гаварылі.



Сёння быў на зямлі
Яе самы нялёгкі працяг.
Не, не верыў, што слава былая
Ўся ў паразе.
Але моцна балела падоўгу
У львіных грудзях,
Калі рэзала думка
Аб люблінскай хвосткай абразе.

Ляхі жвава набеглі.
Бо чулі сусед аслабеў.
Вось каму нізавошта
Й на волас адзін не сумецца.
Дужа многа далонню шляхетнай
Хапалі сабе,
Дык хаўрусніка-злодзея
Мусіў паставіць на месца.

Быў жа моцы літоўскай
Нядаўні вялікі разліў.
Дзе ж. калі пачалося
Паганаю ранню сучассе?
Прабавалі народ і краіну
Цяпер на разрыў.
І трымаліся мужны яны,
Толькі б ён не здаваўся.

Між няшчасцяў быцця,
Як хвароба дурная свая,
Небяспечнаю зданню
Страшыла дзяржаўная смута.
Ля калыскі найбольшага ў свеце
Закона стаяў –
Векапомнага светача
Вольнай Айчыны, Статута.

А кругом аж чапляў трыбухі
Іншаземшчыны гной.
Бачыў – роднага духу
Насоўваўся час палыновы.
І з дзяржаўнаю радай
Адчайна кідаўся ў бой
На апошні ратунак
Згалеламу рускаму слову.

Хутка ладзіла Ляхія
Пасткі вялікай прыгон.
Перашкодай быў канцлер ёй,
Чорга ўпарты ўлюбёнец.
Мудры змей, спадзяваўся
На слынную унію ён.
Што дзяржаўную вольнасць
Ад хітрых спрытнюг абароніць.

Згодны храм бачыў выйсцем
Адзіным у люда бядзе,
Бо пужала народнай душы
Разарванае сэрца.
Дык Кунцэвіч,
як той "душахват",
Меў на ўдачу такі ўжо спадзеў,
Што ўвогуле добрую справу
Парушыў, здаецца.

З кожным годам вакол
Станавілася ўсё гарачэй.
Без таго зацягнулася
Вельмі ўжо паляванне.
Як абкладзены зубр, бунтаваў,
Не лавіўся яшчэ
Твой апошні. Айчына,
Бадай што зусім, магіканін.

### 61. ЛАСУНЫ

Бракавала, як у ветракоў,
У галоў устойлівае сталасці.
Надта ад заходніх скразнякоў
Розумы вяльможныя хісталіся.

Толькі б несучасны і адстаў.
Уздыхалі, што ў саміх не мелася,
Як дарваліся да смачных страў,
Вабнай перапэцкаліся ерассю.

Не, не дзеля моды і манер.
Не дарэмна век разумны
вучыцца.
Жахам абдавала іх цяпер
Ад вярыг глухой галоў
дрымучасці.

Тонкіх захацелася харчоў.
Хоць і з нехлямяжасцю
прыроднаю.
Пасля свойскіх шабляў і мячоў
Пальцы фаліянты перагортвалі.

Паўтаралі вучні свой урок,
Доўга ганарыліся знаходкамі.
Песцілі і радавалі зрок
Перад цемрай скураныя
вокладкі.

Дзесьці на Еўропе па вясне
Абуджаліся куткі мядзведжыя.
Ад чароўных выспаў на сцяне
Фарбы італьянскія бянтэжылі.

Стала для разгубленых вачэй
Прыгажосць сама
адной абранніцай.
Не, жыццё не ведала яшчэ
Гэткай асалоды марнатравіцы.

Хто забудзе тыя вечары –
Гаманілі з постацямі знатнымі:
Мастакі найлепшыя – сябры,
Госцейкі – паэты з музыкантамі.

Адкрывалі ісціны сакрэт.
Думку,
іншы раз неасцяроджную.
Дзякавалі непакорны свет
За адценні ўсе яго прыгожыя:

- Будзь адкрыты
мудрасцям любым.
Паратунак твой –
у гэтай вольнасці.
Хай і заўтра ў храме не адным
З нашага Парнаса
музы моляцца.

Са спазненнем увайшлі ў давер.
Спахапіўся розум перакручаны.
Але што паспееш тут цяпер?
Дай хоць, Божа,
сціпла дакрануцца нам.

### 62. ПАСТЫРЫ

Прымалі ў школы нават басату
З ахвотай найвучоныя паны.
Літоўскую вучылі грамаду
Ісуса бескарысныя сыны.

Выдатна пачуваліся між слоў –
Зайздросны гарадзілі агарод.
Якіх не выкладалі толькі моў!
Занадта языкаты быў народ.

Мудроны часам ладзіў балаган.
Бы біліся па класах салаўі –
Складаных спрэчак віравалі там
Няважна чым пачатыя баі.

Вучылі свет дурыць,
як цёшчу – зяць.
Старанна абвяргаўся аргумент.
І мусіў зноў
прамоўца выступаць,
Як свой жа самы люты апанент.

Нат не патрабавалася адзнак,
Каб не лавілі юнакі варон.
Там наліваўся чырванню лайдак
Пад блазенскім
праклятым каптуром.

На вус матала жвавае пяро.
Пытанняў нізку і парад.
Абмацваў пільна юнае нутро
Ўважлівага позірку пагляд.

Няйнакш трымаўся моцна
ўвесь Касцёл
На спрыце тых прафесароў,
Калі каб выгнаць нешта з зол,
Выказвалі падзяку ці дакор.

Ды быў асветны краю раскалых
Удзячны хітрым пастырам такім.
А "aima mater" віленскія іх
Парогам нашым сталася самім.

Прышэльца, памяць,
кнізе для радка
Збярыся, па заслугам ацані.
Ён нашыя інстынкты ашукаў.
Высокаю навукай паманіў.

### 63. АБРАЗ

Узрушыў загадкавы госць
Першы раз на вяку.
Паведаміў неяк Гасподзь
Пра сябе земляку.

Раптоўна галодныя вочы
Яго наталіў.
Маленькім зусім яшчэ крочыў
Па нашай зямлі.

Даверыў, аддаў у палон
Разам з маці сябе
Пачуццям і позіркам ён
Багамазаў яе.

Бы цёплай краналіся хвалі
Кутка мастакі.
Дык лікі пасля абрамлялі
Пялёсткі, вянкі.

Святла галасы
Пяшчоты журчалі здаля.
Цвілі абразы,
Як тутэйшая гэта зямля.

А мяккія лініі
Ціха сцякалі ўніз.
Любіла Скарынія
Белаю фарбаю рыз.

Скупой асалодай
І святам свайго адкрыцця.
Было хараство тут
І вечная песня жыцця.

Спявала жывая істота.
Пісала алтар...
І плавіўся ціхай лагодай
Мясцовы жыхар

Маліўся як быццам нясмела...
Ды быў жа працяг –
Салодка ад лікаў балела
Штодзень у грудзях

*(Працяг у наступным нумары.)*

Васіль Ліцьвінка

# ГУКАННЕ ВЯСНЫ

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 11.)*

Такім чынам найчасцей спяваліся вяснянкі:

***Вол бушуе - весну чуе. Г-е-е-е, весну чуе.***
***Не бушуй воле, бо пайдзеш у поле.***
***Г-е-е-е, пойдзеш у поле.***
***Дзеўка плача - замуж хоча.***
***Г-е-е-е, замуж хоча.***
***Не бушуй, воле, нагарэшся.***
***Г-е-е-е, шчэ нагарэшся.***
***Не плач, дзеўка, нажывешся.***
***Г-е-е-е, шчэ нажывешся.***
***Вясна красна, вясна красна,***

***Да што ты нам прынесла.***
***Шаўкавую траву на вясну,***
***Буйнае жыта на лета.***
***Малым дзеткам па яечку,***
***Старым дзедкам па кіёчку,***
***Маладым малодкам па бердзечку.***
***Дзе малыя дзеткі гуляюць,***
***Там яечкі качаюць.***
***Дзе старыя дзяды стаялі,***
***Там кіямі зямлю скарпалі.***

Песні-гуканні вясны з'яўляюцца найбольш прыгожай, але выключна складанай для авалодання ёю ў аўтэнтычным выглядзе з'явай, дасканала авалодаць якой можна толькі з малаком маці з-за іх складанай спеўнай формы. Таму адзіна магчымы сродак іх засваення - з вуснаў носьбітаў гэтай песен:най традыцыі, а пры немагчымасці - з непасрэдных запісаў ад знаўцаў традыцыі гукання на грампласцінках, магнітных і відэа-стужках (лепш за усё з апошніх).

Сакральнай часткай пачатку абраду з'уляецца зварот па дазвол гукаць вясну:

***Ці дазволіце, старыя людзі,***
***Благаславіце, старыя дзяды,***
***Нам вясну красну выгукаці:***
***Сцюдзёную Зіму ў каморачку,***
***А цёплае Лета на вулачку.***

Пазней зварот гучыць як хрысціянізаваны "Дабраславі, божа, прачыстая маці", але хрысціянізаваны зварот не мае сэнсавай сувязі, як, прыкладам у валачобніцтве, з Гуканнем вясны. Адмыканне вясны і замыканне зімы - гэта не толькі сімвалічнае дзеянне, а магія ўміласціўлівання вясны, каб прынясла добры ўраджай. Часам з гэтай мэтай акрамя "шызых галачак", "шэрых гусачак", "жавароначкаў" звяртаюцца да пчолачак:

***Ты пчолачка ярая, ты вылець з-за мора,***
***Ой, Лало, Лало, ты вылець з-за мора.***
***Ты вынесі ключыкі, ключы залатыя,***
***Ой, Лало, Лало, ключы залатыя.***

Антрапаморфная выява вясны і веснавога росквіту прыроды найцрыгажэй прадстаўлена ў наступнай вяснянцы:

***Едзе, едзе вясна на залатым кані,***
***У зялёным саяні, на сасе седзячы,***
***Сыру зямлю аручы, смыком скародзячы.***
***Вязе, вязе вясна, вязе, вязе красна***
***Ясныя дзянёчкі, частыя дажджочкі,***
***Зялёныя травы, красныя цвяточкі,***
***Красныя цвяточкі нам на вяночкі.***

* * *

***Звеставаннейка святое,***
***Пашлі сонейка залатое,***
***Каб зямелька адышла,***
***Да вясна да нас прыйшла,***
***Каб распусціліся ветачкі,***
***Каб раскраснеліся кветачкі,***
***Каб лугі зазеляснеліся,***
***Нашы нівачкі адзеліся.***

Гук "У-у-у-у!" часам мог гучаць і як "Гу" "Нгу!" "Ге!" або "Ну!", але найбольш часта фоніка гукання афармляецца доўгім працяглым гукам "у-у-у-у-у". Ён фантастычна гучыць рэхам у лесе або як адбітак ад берагоў рэк, другіх узлескаў. У часы больш развітай спеўнай культуры ён падхопліваўся групамі спевакоў і перадаваўся ад горкі да горкі, ад вогнішча да вогнішча, ад аднаго канца вёскі, вуліцы да другіх, ад прызбы да прызбы, ад лаўкі аднаго дома да лаўкі другога і г п.

З гукальнага гука "у -у - у - у " мог пачынацца, заканчвацца і перарывацца радок, таму музычны радок у гукальных песнях хутчэй не песенны, а эмацыянальна-рэчытатыўны вокліч-прызыў, эмацыянальны ўсплеск радасці з-за таго, што прыходзіць вясна. Таму там, дзе ёсць Гуканне вясны, не гавораць, у адрозненне ад другіх пор года "лета, восень ці зіму спяваюць", а гавораць

## Крыжаванка "Адновім мову"

*Склаў Уладзімір Эсмантовіч*



**Па гарызанталях:** 1.Падраздзел тэкста. 7.Знешні, цвёрды слой хлеба. 12. Млекакормячая жывёла сямейства мышэй. 13. Асаблівасці складу горных парод. 14. Лясная веснавая расліна з блакітнымі кветкамі. 15.Выраб з узорыстай тканіны. 17. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Бельгіі і некаторых іншых краінах. 18.Адтуліна ў печы. 19. Шлях, вялікая дарога. 22. Малюнак, узор, нанесены спецыяльным прыстасаваннем. 24. Білет на праезд у гарадскім транспарце. 31. Тое, што падман. 32. Слой драўніны. 33.Прыстасаванне для лоўлі рыбы. 34. Старая руская мера даўжыні. 35.Малая планета, астэроід. 46.Невысокі горны ланцуг. 38.Навучэнец ваеннага вучылішча. 41. Пашкоджанне на целе жывога арганізма. 44. Краіна на захадзе Афрыкі. 45. Вакальны твор, звычайна ў складзе оперы. 46. Аздараўленне. 38. Паласаты конь афрыканскіх стэпаў. 49. Спешная тэлеграма. 53. Сродак, які прыводзіць у дзеянне механізм. 55. Воля, свабода. 57.Мера часу. 58.Паляўнічы сабака. 59.Сталіца Афганістана. 60.Кручок для зашпільвання вопраткі. 61. Група, натоўп. 64. Кулінарны выраб. 67. Асоба, якой дасылаецца паштовае адпраўленне. 69. Рыба сямейства карпавых. 70. Музычны твор з урачыстым зместам. 74. Асобны здымак на кінаплёнцы. 75. Сталіца Латвіі. 76. Хваёвае дрэва. 79. Паўтарэнне слова ў пачатку некалькіх вершаваных радкоў. 81. Забітае ў грунт бервяно. 83. Загадка ў выглядзе спецыфічных малюнкаў. 84. Грузавое, звычайна несамаходнае судна. 85. Дзейны вулкан у Італіі. 86. Пажарная вартавая вежа. 87. Частка сцяны або столі з малюнкам, абрамленая арнаментам. 88. Хімічны элемент, метал. 92. Кавалак матэрыі, скуры, якімі абшываюць пашкоджанае месца. 97. Вялікі класічны музычны інструмент. 100. Вайсковая адзінка ў старажытным Рыме. 101. Кіраўнік вышэйшай навучальнай установы. 102. Невялікі літаратурны твор. 103. Рызыкоўная, несумленная справа. 104. Сістэматызаваны гуказапіс. 105. Правы прыток Нёмана. 106. Булачны выраб у выглядзе кольца. 107. Рад калон пад агульным перакрыццем.

**Па вертыкалях:** 1. Дакумент, у якім засведчана права вынаходніка на яго вынаходніцтвы. 2. Дрэва, тое, што і вярба. 3. Стыль сярэдневечнай архітэктуры. 4. Будынак для кармоў і гаспадарчых прылад. 5. Жанр, карціна марскога пейзажу. 6. Выкананая ў хуткім тэмпе частка мелодыі. 8. Сімвал улады манарха. 9. Рэч, арганізм, якія засталіся як перажытак ад старажытных эпох. 10. Часовая падлога з дошак. 11. Начальнік у казацкіх войсках або паселішчах. 15.Рака ў Еўрапейскай Расіі. 16. Расліна сямейства матыльковых, ідзе на корм жывёле.20. Майстар па вырабу вупражы. 21. Корм для сельскагаспадарчай жывёлы. 23. Беларускі паэт-класік, аўтар паэмы "Новая зямля". 25. Вадкасць, насычаная сокамі таго, што ў ёй варылася. 26. Вышэйшы знак узнагароды. 27. Разлік даходаў і расходаў. 28. Уладальнік банка. 29. Адзінка вымярэння сілы ў Міжнароднай сістэме адзінак. 30. Абадок у галаўным уборы. 36. Спецыяльнае назапашванне прадуктаў. 37. Паэт-спявак у казахаў, кыргызаў. 39. Рачное судна на падводных крылах. 40. Прыбор, прыстававанне. 42. Відазмяненне кіслароду. 43. Афіцыйнае апісанне свайго жыцця. 47. Вокісел на паверхні металу. 50. Спецыяліст па хваробах вачэй. 51. Халодная калючая фехтавальная зброя. 52. Вяроўка з пятлёй на канцы для лоўлі жывёл. 54. Крук, зачэп у багры. 56. Драпежная прэснаводная рыба. 57. Традыцыйная першая страва. 62. Вусны або пісьмовы зварот да грамадства. 63. Пацяпленне зімой з раставаннем снегу. 65.Жарт. заснаваны на выкарыстанні сугучнасці слоў. 66. Прадукт харчавання, заменнік масла. 68.У ХУІІІ-ХІХ ст.ст.: скрынка з рухомымі малюнкамі, лялечны тэатр. 71. Вялікі струнны музычны інструмент. 72. Тое, што і кветка. 73. Землякоп. 77. Свяшчэнная расліна ў Індыі, Кітаі. 78. Пастушковы журавель. 80. Адметна адзеты чалавек, моднік. 81.Незасеянае поле. 82. Аптычнае шкло. 88.Смеласць, рашучасць. 89. Фраза ў прыўзнятым тоне. 90. Прэснаводная рыба. 91. Горад на поўначы Краснадарскага края. 92. Беларуская "бавоўна". 93. Аўтар твора, пісьма без подпісу яго імя. 94. Цяжкае становішча ў эканоміцы. 95. Атамная электрычная станцыя. 96. У вершаваным тэксце: аб'яднанне некалькіх радкоў. 97. Буйны аддзел вайсковых караблёў.98. Свавольнік, дураслівец, непаседа. 99.Пасяджэнне з абмеркаваннем пэўных пытанняў.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 03. 2004 г. Замова № 513.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
*Кошт у розніцу:* 295 руб. (у Менску - 310 руб.)